
Бобранскія сенакосы ➔ 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Вершы Жэні Мартынюк ➔ 9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 37 (3253) Год LXIII Беласток, 16 верасня 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# VIII Бульбафэст у Ліпінах

**На Гайнаўшчыне пакаленне маіх бацькоў вырошчвала многа бульбы, якую ўбіралі ўручную. Была яна асноўным кампанентам харчавання нашых родзічаў і продкаў, а таксама кормам для хатняй жывёлы. Бульбу прадавалі на ўнутраны рынак, напрыклад на Шлёнск, высылалі на экспарт, нават у Савецкі Саюз. Пазней вырошчванне бульбы на Гайнаўшчыне моцна абмежавалася, але надалей прыпушчанскія сяляне вырошчваюць яе на свае патрэбы і прадаюць на рынку гайнавянам. Фэст, прысвечаны традыцыі вырошчвання бульбы і яе выкарыстання стаў ладзіць Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы. Пазней быў ён уключаны ў Беларускі фестываль «Культура на музейных сходах». Фэст, прымеркаваны бульбе сталі ладзіць жыхары Ліпін. Да ліпінскага бульбянога фэсту падключыліся сімпатыкі мерапрыемства, стала падтрымліваць яго войт Гайнаўскай гміны.**


Кухар Рыгор Анішчук

VIII Бульбафэст, які адбыўся 1 верасня, прыцягнуў у Ліпіны многа публікі, сярод якой паявіліся таксама былыя бульбаводы. Падчас фэсту яго ўдзельнікі з'елі амаль увесь суп звараны са 100 кілаграмаў бульбы, 40 кіло свініны, тлушчу, цыбулі і прыпраўлены рознымі спецыямі. Супам напоўнены былі 4 умяшчальнікі ёмістасцю ў 300 літраў. Кухар Рыгор Анішчук суп падрыхтаваў паводле беларускага народнага рэцэпта. Публіка ела таксама печаную ў вогнішчы бульбу і іншыя бульбяныя стравы, сачыла за спаборніцтвамі з бульбай у галоўнай ролі, слухала вершы аб бульбе, напісаныя на адмысловы конкурс.

У 2011 годзе на панадворку солтыса Ліпін Кацярыны Якубоўскай спаткаліся маладыя асобы, каб супольна адпачыць на прыродзе пры печаной бульбе. Тады паўстала ідэя, каб праз год сарганізаваць пячэнне бульбы адкрытае на ўсіх жыхароў Ліпін і наваколля. Другое такое спатканне было названае бульбафэстам. Жыхары Ліпін і іх знаёмыя з суседніх мясцовасцей збудавалі сцэну. На мерапрыемства сталі запрашаць музычныя калектывы. Калі ў 2013 годзе жыхары Ліпін заснавалі Аб'яднанне «Крыніца», стала яно з дапамогай гмінных улад арганізаваць шматлюдны бульбафэст.

Так было і сёлета. Шматлюдная публіка праводзіла час пры выступах выканаўцаў, якія спявалі па-беларуску, прымала ўдзел у прапанавах арганізатараў бульбафэсту, якімі былі Аб'яднанне «Крыніца» ў Ліпінах і войт Гайнаўскай гміны.

— Я хацела асабліва адзначыць, што сёлетні бульбафэст арганізуецца пры выдатнай падтрымцы амаль усіх жыхароў Ліпін. Падчас Раждаства Хрыстовага мы каляндавалі і дзякуючы сабраным тады сродкам ладзім сённяшні фэст. Наша Аб'яднанне «Крыніца» арганізавала раней выезд у рамках праекта, які мы назвалі чатырма стыхіямі «Вада, агонь, зямля і паветра». Мы самастойна рэалізавалі свой праект, без вонкавых сродкаў і пабывалі ў Мельніку, дзе плавалі па рацэ Буг, былі ў крэйдавым кар'еры і ў музеі, дзе паказваюцца мінералы. У Ліпінах арганізуем для вучняў майстар-класы па бульбаводстве і выкарыстанні бульбы ў харчаванні. Сёлета вучні Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы запрэзентавалі тэатральную пастаноўку па-беларуску «І як тут не верыць у шаптух», якую падрыхтавала тэатральная апякунка Вера Масайла, — сказала старшыня Аб'яднання «Крыніца» ў Ліпінах і солтыс гэтай вёскі Кацярына Якубоўская.

Бульбафэст вяла Марыёля Герман-Петручук. У ходзе аднаго з конкурсаў ставіла сабраным пытанні наконт вырошчвання бульбы, гісторыі бульбафэсту і дзейнасці Аб'яднання «Крыніца».

— З пастаноўкай «І як тут не верыць у шаптух» мы выступалі ўжо ў многіх месцах і ўсюды ўспрымаецца яна з вялікай зацікаўленасцю з-за добрай ігры нашых вучняў і гумару, які любіць наша публіка, — гаварыла настаўніца-пенсіянерка Вера Масайла, мастацкі кіраўнік тэатральна-вакальнага калектыву «Званкі», які дзейнічае ў Гайнаўскім доме культуры.

— Хаця ў пачатковай школе і гімназіі я не вучылася беларускай літаратурнай мове, то дзякуючы пані Веры Масайла я пачала яе любіць. Мне вельмі падабаецца выступаць па-беларуску ў спектаклі «І як тут не верыць у шаптух», да якога доўга рыхтавала нас пані Вера, — сказала Юля Вжосак, якая ўдала выступіла яшчэ з дзвюма сольнымі песнямі. Белліцэістка Вераніка Пташынская таксама захапіла сабраных выкананнем сваіх песень.

Многа працы было ў кухара Рыгора Анішчука, які штодзень варыць абеды вучням Комплексу школ у Дубінах. Разам з членамі Аб'яднання «Крыніца» расчысціў ён 100 кілаграмаў бульбы і прыправіў 40 кіло свініны, каб зварыць 300 літраў супу, які публіка з'ела на працягу бульбафэсту.

— Суп падрыхтаваў я паводле беларускага народнага рэцэпта з бульбы, мяса, тлушчу і цыбулі. Канешне, дабаўляў прыправы, галоўным чынам з нашых агародаў, — заявіў кухар Рыгор Анішчук.

На трэцяй гадзіне бульбафэсту яго ўдзельнікі з'елі больш чым палову зваранага Грыгорыем супу. Публіка ахвотна дарыла сродкі, якія Фонд прарока Ільі ў Міхалове збіраў на будову госпісна-апякунскага асяродка ў Макаўцы каля Нарвы.

Музычныя і тэатральныя калектывы выступалі на сцэне, побач якой адбываліся конкурсы. Дзеткі навыперадкі збіралі ў вядзерцы рассыпаную бульбу і складалі вершыкі пра бульбу. Падчас конкурсу за кубак войта Гайнаўскай гміны трэба было выканаць як найдаўжэйшую лупіну з бульбы. Маючы тры бульбы, трэба было паказаць лоўкасць і зрабіць самую доўгую бульбяную лупіну. Найлепшы вынік атрымаўся ў Ірыны Лукшы з Гайнаўкі, якая з адной бульбы выканала лупіну ў 87 сантыметраў. Сабраныя спажывалі таксама бульбу печаную ў вогнішчы і бульбяныя стравы, падрыхтаваныя дома гаспадынямі на «Кулінарны конкурс на самую смачную бульбяную страву».

— Арганізацыйнымі пытаннямі сёння займаецца Аб'яднанне «Крыніца» ў Ліпінах, а Гайнаўская гміна ўспамагае бульбафэст у розных яго праявах, — заявіла войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч.

— Каб не прыгарала, мы ў вогнішча пячэм бульбу завернутую ў фольгу і называем яе «бульбай у сярэбраных сарочках», — удакладніла дзяячка Аб'яднання «Крыніца» ў Ліпінах.

Перад публікай займальна запрэзентаваліся беларускія вакальныя калектывы — «Жаваранкі» з Махнатага і «Ручаёк» з Белавежы, з якімі займаецца Марк Зубрыцкі з Белавежскага асяродка культуры. Дзеткі маглі паглядзець вопратку пажарніка, пазнаёміцца з машынай пажарнікаў з Махнатага. Падбягалі яны да месца, дзе ахвотна паліваліся вадой. На фэст прыбылі вайскоўцы тэрытарыяльнай аховы, якія арганізавалі дзеткам ваенізаваныя спаборніцтвы. Вялікай зацікаўленасцю дзетак карысталіся майстар-класы па рукадзеллі, якія праводзілі жыхары Ліпін і Барысаўкі ў рамках праекта тэматычных вёсак «Барысаўка — вёска драўляная і «Ліпіны — вёска бульбы». Можна было там выканаць вырабы постацей і розныя прадметы перш за ўсё з выкарыстаннем драўніны. Дзеткі гулялі таксама на багата абсталяванай і агароджанай пляцоўцы, некалькі гадоў назад збудаванай за вясковай святліцай у Ліпінах. Працаўнікі Гміннага цэнтра культуры ў Дубінах выконвалі цацкі з шароў і размалёўвалі твары дзеткам. Займальна запрэзентаваліся на сцэне з песенным рэпертуарам Эва Іванюк з Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы, вакальная група Студыі песні ГДК і дзіцяча-маладзёжны хор Нарваўскага асяродка культуры, з якімі паспяхова займаецца Марта Грэдаль-Іванюк.

— Дзяўчаты Студыі песні ГДК падрыхтавалі рэпертуар на розных мовах, які тут яны заспяваюць. Зараз рыхтуемся да двух вялікіх канцэртаў, якія будуць наладжаны ў Гайнаўскім доме культуры. Вучні дзіцячамаладзёжнага хору, з якімі я год займаюся ў Нарваўскім асяродку культуры, ахвотна ходзяць на заняткі і чакаюць іх адкрыванне сваіх музычных талентаў, — заявіла мастацкі кіраўнік Студыі Марта Грэдаль-Іванюк.

Бульбафэст доўжыўся да позніх начных гадзін, калі сабраныя гулялі пад музыку калектыву «Лайланд» з Беластока.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**



# Падарожныя восеньскія замалёўкі



У Мінск з Гародні мы выехалі рана. І хоць трыста кіламетраў для еўрапейскай машыны не адлегласць, лепш усё ж стартануць раней, бо па самым Мінску можна страціць больш часу, чым дабіраючыся да яго. Бо там марафон нейкі, спартовыя спаборніцтвы, увесь горад перакрыты і міліцыі шмат. І аўтазакі ўжо не хаваюцца па завуголлях а стаяць там, дзе ім у нас і належыць стаяць, прама на вуліцах, і вельмі гарманічна ўпісваюцца ў агульны фон у краіне.

Таму да канкрэтнага адрасу хутчэй даедзеш на метро чым на ўласным транспарце. Можна і пешшу, канешне. Ці на роліках. Ці разам са спартоўцамі прабегчыся, чаго ніхто не забараняе, Іх, як кажуць, бегла больш трыццаці тысяч. Спартовая ў нас сталіца.

Нічога не зробіш, у сталіцы 8 і 9 верасня свята горада — 951 год з моманту заснавання. Гэта не жарты. Таму ўсе радасна бегаюць. І не толькі бегаюць. Народ святкуе, хто як хоча. Наладжана больш за сто святочных мерапрыемстваў у розных кутках горада. Сам начальнік краіны прыехаў паспрачацца, хто лепшы ў эстафетнай гонцы на лыжаролерах у спаборніцтвах каманд сілавікоў. Каманда кіраўніка Беларусі перамагла. А сам кіраўнік завяршаў эстафету і фінішаваў першым. Ну хто б сумняваўся.

Свята горада па выпадковым супадзенні ці па волі якойсьці магутнай сілы супала з Днём беларускай вайсковай славы, які вельмі шануе апазіцыя. Гэта калі пад Оршай нашы разбілі войскі расейскага цара ў 1514 годзе. Таму жадаючыя маглі цешыцца і гэтай перамогай разам з астатнімі, што святкавалі год заснавання Мінска, але не асабліва афішуючы. Бо як мінімум аднаго марафонца затрымалі сілавікі толькі за тое, што ён бег з бел-чырвона-белым сцягам. Пакуль што Дзень горада Мінска і Дзень беларускай вайсковай славы супадаюць толькі па датах календара. І хіба што на думку арганізатараў свята, гэта яшчэ не стала прычынай іх зводзіць і па іншых параметрах.

А па дарозе да Мінска ўжо можна было назіраць, як жыхары краіны пачалі капаць бульбу. Мяшкі роўненька як салдацікі выстраіліся на палях. Людзі кучкамі пакрысе прасоўваліся наперад па полі. Звыклая восеньская карціна для Беларусі. Сярод удзельнікаў той эстафеты дух першынства не назіраўся. І ўрачыстасці на тварах таксама было крыху менш, чым у сталічных удзельнікаў. Але, здаецца, ніхто не ўхіляўся ад працы і не зыходзіў з гэтай палявой дыстанцыі. Хіба што ў гэтай бульбяной эстафеце непарушна дзейнічае алімпійскі прынцып — галоўнае не перамога, а ўдзел.

Беларусы, кажуць, больш за ўсіх з'ядаюць той бульбы на душу насельніцтва. Можа хто думае, што яны яе любяць больш чым іншыя прадукты, але я штосьці сумняваюся. Бо нядаўна быў у гасцях, то бачыў, што нашы людзі і ад мяса нос не адварочваюць, і ад рыбы. Думаю і кальмары ўплятуць за мілую душу, і крэветкі, і амары, і экзатычныя стравы з акулы і кракадзіла. Але больш за ўсіх на душу насельніцтва ўсё ж з'ядаюць бульбы. Вось такія мы загадкавыя. Ну але гэта лёгкае адхіленне ад апісання восеньскага пейзажу.

Дарога з Гародні ў Мінск пакрысе набывае еўрапейскі выгляд. Чаго добрага і з нямецкімі аўтабанамі хутка зможа паспаборнічаць. Прынамсі адзін дарожны рабочы мне так і заявіў, што калі ў дарогу ўкласці еўрапейскія грошы, то яна ад еўрапейскіх нічым адрозніваца не павінна. Праўда, іншыя яго калегі зарагаталі і заявілі, што для гэтага трэба, каб і дарожныя рабочыя зараблялі еўрапейскія заробкі. Вось можа тады і паспаборнічалі б. Ох, гэтыя спаборніцтвы! І тут спаборніцтвы. Ну але хутка самі пабачым хто быў праў. З еўрапейскімі заробкамі, ці з беларускімі, а дарогу плануюць адчыніць згодна з графікам. От тады і паглядзім, ці варта на рабочых выкідваць такія шалёныя грошы як у Нямеччыне, ці можна дасягнуць таго ж выніку меншымі стратамі.

А ля ўжо даўно збудаванай мінскай кальцавой дарогі сабраліся кала 80 чалавек, каб не дапусціць забаўляльны бізнес на месцы расстрэлу людзей у Курапатах. Акцыю планавецца працягваць да „Дзядоў". Гэта таксама ўжо стала звыклай восеньскай карцінай гэтага года.

У гэтым годзе восень надзвычай цёплая. І лета было такое. Клімат, кажуць, мяняецца. Усё мяняецца. Закон жыцця. Можа ўсё зменіцца хутчэй, чым думаем. Нішто ж не вечна.

Віктар САЗОНАЎ

# Недастатковае, значыць...



Я прачытаў у «Жыццях і поглядах вядомых філосафаў» Дыягена Лаэрцкага пра Платона, што ён упершыню ўвёў у філасофію між іншым такія тэрміны, як «дыялектыка», «якасць» і «высокія (лонглінеарныя) лікі» Так, я памятаю са школы, вылучаюцца сярод іх першыя, натуральныя, рацыянальныя... Можна дадаць да гэтага лікі Фібаначы, «залатыя лік» і ўсё астатняе. У той час пра лікі лонглінеарныя ніколі не чуў. Хоць гэта праўда, што калі хтосьці неасцярожна возьме крэдыт у банку, і не пагашае яго ў час, працэнт неаплачаных узносаў можа перайсці тыя «лонглінеарныя лікі». Аналагічным чынам, лік П («пі»). Яе матэматычны развой, не ведаю, ці яшчэ актуальны, даходзіць да больш тысяч мільярдаў (!) дзесятковых месцаў і, вядома ж, гэта не з'яўляецца вынікам працы чалавечага мозгу, а магутнага камп'ютара, якому падлікі занялі больш за 600 гадзін алгарытмічнага іскрэння. У мяне была кніга ў руцэ, дзе аўтары спрабавалі надрукаваць на яе старонках той запіс пашырэння ліку П. Ці не 1 трыльён 240 мільярдаў лічбаў. Вядома, дзесятковых. Рэзюмуючы, неразвітае П гэта 3,14... У кнізе заняло гэта амаль 36 поўных друкаваных без прабелаў старонак. Гэтая кніга — занадта лонглінеарная.

Лонглінеарнасць пануе — так бы мовіць — усё больш і больш у сучасным свеце. Возьмем у якасці прыкладу кнігу. Яшчэ ў апошнім стагоддзі, за выключэннем «У пошуках страчанага часу” Марсела Пруста, яе сярэдні аб'ём не перавышаў 250 старонак. Усё даўжэйшае здавалася колішняму чытачу лонглінеарнай нудотай. Сёння нават 600- і 1000-старонкавы раман, самая ганебная хала прыносіць чытачу асалоду. У той жа час колькасць старонак не ідзе з якасцю апавядання. Я так думаю. Скандэнсаваная кароткасць — як у «Непрычасаных думках» Станіслава Ежы Леца (ой, хто цытуе яго сёння?), змястоўнасць, дакладнасць, лагічнае адзінства, дакладная яснасць, уступаюць месца размямлянай, недакладнай, непразрыстай лонглінеарнасці. Незалежна ад таго, як яна выяўляецца. Справа ў тым, што папулярнасць такіх тэлесерыялаў, званых вачаклейкамі, тым больш вырастае, чым больш валочацца напісаныя на калене сцэнарыі. Сапраўды гэтак жа, як з лонглінеарнымі выказваннямі Качынскага. Таго, Ярослава! Дзіўна тое, што ўваскрэсіў ён дыялектыку марксісцкага паходжання, што «колькасць» на нейкім этапе плённасці натуральным чынам трансфармуецца ў «якасць». 500+ і іншыя плюсы — гэта камусьці штосць тлумачыць?! Я гэтага зусім не разумею. Але Яраслаў гаворыць і гаворыць і, падобна, верыць у гэта, з такой жа дыялектычнай упартасцю асла (аслы хай даруюць!), што «колькасць» стане «якасцю».

І цяпер ён радуецца! Шкода, што яго лонглінеарная, закрытая імпасібільнасцю ляскатлівая ўлада прымервавецца, вымарачна, да бясконцага і ўсё працягваючагася ліку П. Толькі што лік П — проста матэматычная асаблівасць. А імпасібільная ўлада Качынскага — неабавязкова. Хоць яна ўсё больш асаблівая.

Хутка выбары ў мясцовыя органы самакіравання. Неўзабаве парламенцкія і прэзідэнцкія выбары. Лонглінеарныя і мутнаватыя заявы лідараў ПіС, не кажучы ўжо пра майстраванне пры выбарчым законе і законе ў цэлым, сведчаць пра тое, што ўлады калісьці ўхопленай у лапы, хутка з лап не выпусцяць. Горш таго, у адпаведнасці з прынцыпам зваротнай дыялектыкі, што чым даўжэй яны кіруюць, уключаючы ў сваю палітыку «доўгі бізун і вялікі пернік», набіраюць усё больш і больш прызнання....Суверэна? На дадзены момант варта спытаць, якое стаўленне суверэна да грамадзян не адчуваючы сябе суверэнам? Згодна з аўтарытэтнымі даследаваннямі, цвёрды электарат ПіС крышку пераходзіць 30 адсоткаў выбаршчыкаў здольных да выбараў. Гэта нават не палова. Аднак для ПіСаўскіх хвастуноў гэта не праўда, самая праўда і толькі праўда, бо ёсць у іх і «самая сапраўдная праўда», так што «палова» неабавязкова абазначае «палову» ўвогуле. Такая логіка не адрозніваецца ад правіла, якое вызначае «лонглінеарнасць». Чым менш логікі, тым яна больш прывабная для масы захопленых прыхільнікаў мыльных опер і бясконцых рамансаў; аматараў усяго, што доўгае і невідавочнае, як жыццё. Для шматлікіх — яно дастатковае. Для яшчэ большай большасці (веру ў тое, аднак, што для нармальнай большасці) — самае бліновае.

Міраслаў ГРЫКА

## Сваімі вачыма

# Вечныя і зямныя дарогі



На мінулыя выхадныя ізноў пацягнула мяне ў свае пушчанскія куткі і загайнаўскія куточкі. Даехаць, асабліва ў суботу ці нядзелю, на грамадскім транспарце ў гэтыя месцы Падляшскага ваяводства даволі складана. Хутчэй можна трапіць у Варшаву, нягледзячы на ўвесь час будаваную там дарогу. Або лепш увогуле не выбірацца з дому, бо з хвілінай прыняцця рашэння такое падарожжа гарантуе сапсаваныя нервы і спазненні.

Самыя вялікія будаўнічыя працы вядуцца зараз паміж Заблудавам і Трасцянкай. Даволі часта мне прыходзіцца зараз там падарожнічаць і хочацца толькі спадзявацца, што нейкае паскарэнне тэмпаў дарожных прац усё ж такі адбудзецца. Шафёры і пасажыры скептычна выказваюцца пра відочную простым вокам лагістыку вядзення гэтых работ. Я ў дарожнай справе аніякі спецыяліст, але калі за кожным разам чую тыя ж самыя крытычныя заўвагі, то, мабыць, нешта ёсць не так. Напэўна не так справа маецца з сістэмай дарожных тут святлафораў і чакання на чырвоным святле, якая абсалютна не супадае з чарговымі рамантаванымі адрэзкамі. Менавіта чырвоная выбарчая картка належыцца ўжо даўно ўсім самаўрадавым палітыкам за тую шматгадовую адсталасць якасці дарогі Беласток — Гайнаўка. Але, дай Божа, дажывем і зажывем як людзі і на гэтым напрамку.

Пра падыход да камунікацыйных развязак на ўсходняй сцяне пісаў я не раз і не два. Склаўшаяся сітуацыя паказвае, які падыход мае мясцовы самаўрад да гэтай праблемы. А гаворка, што дбае ён увесь час пра сваіх жыхароў, гэта ў большасці, на жаль, толькі пустыя словы. Відавочна, дбае ён генерална пра адно: каб быць яшчэ раз пераабраным. І гэта ўся вяршыня памкненняў мясцовай улады.

А людзі нават не хочуць ужо інтэграцыі адсталай часткі гмін са сваім цэнтрам. Чым далей ад вачэй чыноўнікаў, то прынамсі яшчэ нейкім чынам можна нашым пенсіянерам падгадаваць без усіх закалотаў курэй, авечак, ну і свінку выгадаваць па-божаму, значыць, на натуральным корме. Таму кастрычніцкія выбары ў самакіраванне ў падляшскай даліне даспявання не ўносяць у яе жыццё напругі, эмоцый і звышпалітычных спаборніцтваў. Проста пясочны гадзіннік адмерае час палітычнага рытуалу, які ёсць толькі кропкай у машыне канвеера рытуальных паслуг. Гаворачы па-чалавечы, людзям на пароза свету жывога і мёртвага да лямпачкі нейкія выбарчыя камітэты.

Самы галоўны клопат пенсіянераў — зрабіць сваім адыходам як найменш клопатаў сямейнікам. Таму прапанова настаяцеля адрамантаваць старую парафіяльную плябанію пры маёй прыхадской царкве і тых жа могілках, з прызначэннем для ладжання там пахавальных ці памінальных абедаў, людзі ўспрынялі як промысел Божы, як яго адказнасць перад сваімі парафіянамі ў апошняй іх зямной дарозе. «От поховают човловіка і од разу усі на обід. Як добрэ. Не трэба дэсь ехаті, а потом думай хто одвэзэ». Такія словы паўтараў мне некалькі разоў мой бацька ў час апошняй пабыўкі дома. Хвалявала яго яшчэ цана абедаў: дзе таннейшыя, калі прыйдзецца іх заказваць — у Дубічах ці Кляшчэлях. «З Кляшчэляў то нават у Гайнаўку на Раджаство і Вялікдзень людзі заказваюць яду». Смачна і танней — не даваў мне спакою сваімі кулінарна-хаўтурнымі расследаваннямі мой бацька. Былі яны вынікам тых усіх галоўных тэм размоў, якія гучаць паміж апошнімі, натуральнымі абарыгенамі гэтай зямлі. А размаўляюць яны пра апошнія дні нядаўна адышоўшых, парадак у царкве і на могілках, посныя і мясныя стравы для штодзённага харчавання і пахавання. Нават ужо той фактар, што грыбны сезон у пушчанскай глушы нават яшчэ і не пачаўся, не выклікае той хвалі ранейшых жарцей, якія выліваліся ў штодзённых размовах. Проста ўжо ногі не дацягваюць да лесу. А рукі толькі абапіраюцца на кіёчак, забыўшыся пра ранейшае ўмелае карыстанне грыбным ножыкам. Таму і сышлі грыбныя эмоцыі. А грыбы, відаць, прадчуваюць, што ў гэтым месцы няма каму за імі ўглядацца і захапляцца — таму не спяшаюцца сюды завітаць. Бо яны ж самаўлюбёныя ў сябе і без цмокання над імі цяжка іх знаходзіць. Так як і цяжка знаходзіць нам чалавечае жыццё ў пушчанскай прасторы.

Яўген ВАПА

# «Бобранскія сенакосы»
## — камерцыйная імпрэза ці акцыя для прыроды

**Нібыта ў Бобры можна закахацца так, як у акцёрках — па здымках. Толькі ў гэтым выпадку бобранская прырода нікога яшчэ не расчаравала. Магчыма таму і ў гэтым годзе прыехалі тут сотні ахвотнікаў з косамі. Усё гэта дзеля захавання натуральнага краявіду даліны адной з найбольш дзікіх польскіх рэк. Да гэтага часу можна захапляцца гармоніяй суіснавання прыроды і людзей — так, як сто гадоў таму. „Бобранскія сенакосы" маюць паспрыяць абуджэнню экалагічнай свядомасці ўласнікаў прыбобранскіх лугоў, як і нас усіх. Аднак не ўсіх задавальняюць вынікі імпрэзы, якая прайшла ўжо сямнаццаты раз.**


Чэмпіён Беларусі па кашэнні багністых лугоў – Васіль Новік


Журналіст, фатограф Бобры – Тамаш Класоўскі

### Для прыроды, а не ўзнагароды

У суботу (8 верасня) на тэрыторыі Бобранскага нацыянальнага парку, непадалёк ад польска-беларускай мяжы адбыўся Чэмпіянат свету па кашэнні балотных лугоў. Мерапрыемства адбываецца ад сямнаццаці гадоў. У Шушалеве — другі раз. Рэгулярнае скошванне багністых лугоў ля ракі Бобра пачынаецца кожны год пасля сезона размнажэння птушак. Гэта звычайна канец жніўня або пачатак верасня. Мерапрыемства носіць не толькі спартовы, масавы, але і экалагічны характар. Такім крокам кіраўніцтва нацыянальнага парку прыцягвае ўвагу да захавання каштоўнага прыроднага асяроддзя — забалочаных лугоў.

— Звярніце ўвагу, мы ў мінулым годзе тут арганізавалі сенакосы, зараз гэтыя маленькія бярозкі зноў адбіліся ад зямлі і зноў гэты луг патрабуе кашэння. Бярозы, алешыны ўжо паўметровай вышыні, без выкошвання балот у будучыні могуць замяніцца ў лес. Не толькі механізацыя сельскай гаспадаркі на гэта мае ўплыў, але таксама ніжэйшы ўзровень вады, — патлумачыў дырэктар Бобранскага нацыянальнага парку Андрэй Грыгарук.

У Польшчы ў Бобранскім нацыянальным парку ўжо XVII раз адбылася спартовая імпрэза для прыроды — Чэмпіянат свету па кашэнні травы. Гэтай акцыяй прыцягваецца ўвага грамадства да захавання балот ды падтрымання традыцыі ручнога кашэння травы. У спаборніцтвах прымалі ўдзел індывідуальныя касцы, як і каманды. Менавіта на індывідуальных гаспадарах і ўласніках лугоў над Бобрай найбольш залежыць дырэкцыі парку. Бобранскія лугі касілі таксама прадстаўнікі нацыянальных паркаў з усёй Польшчы і госці з-за мяжы: Славакіі, Вугоршчыны, Бельгіі, Канады і Беларусі. Для перамогі ў камандным заліку касцоў у складзе двух удзельнікаў трэба было як мага хутчэй і якасней скасіць стаметровую паласу шырынёй у тры метры. Затым, каб вызначыць пераможцу ў асабістым заліку, дзесяці лепшым касцам неабходна было прайсці такую ж дыстанцыю, але ўжо з шырынёй пракоса на паўтара метра.

— Мы ўжо чатыры разы былі ў Польшчы чэмпіёнамі, — сказаў Васіль Новік, чэмпіён Беларусі па кашэнні багністых лугоў. — Каб добра касіць, павінна быць пажаданне з галавы і з сэрца. Таксама важнае, хто вучыў касіць. Мяне навучыла маці. Я прыязджаю са сваёй касой — такой ужо нідзе не сустрэнеш. Гэта яшчэ польская, зробленая ў 1938 годзе! Некаторыя мяркуюць, што калі пальцам ударыш касу і дастанецца звонкі-звонкі гук, гэта сведчыць, што каса добрая.

Сярод удзельнікаў былі як прафесійныя касцы, так і тыя, хто трымаў касу ў руках упершыню. Касцамі былі мужчыны нароўні з жанчынамі.

— Першы раз трымаю касу ў руках. Сяброўка дала мне крыху парадаў і думаю, што нават добра атрымалася. Ну, я не касіла на час — не скасіла найхутчэй, — прызналася Анна Садкевіч з Бобранскага нацыянальнага парку. — Я касіла, каб было добра — для прыроды!

### Бобранскія балоты зацягваюць людзей

Бобранскі нацыянальны парк самы вялікі ў Польшчы. Лугі займаюць 70% усёй тэрыторыі. Яго балоты гэта не толькі першасныя экасістэмы, створаныя сіламі прыроды. Яны сфармаваліся пад уплывам чалавека, які не надта інтэнсіўна выкарыстоўваў гэтыя лугі. Людзі іх касілі, збіралі сена, пасвілі кароў. Дзякуючы гэтаму Бобранскія балоты не пазарасталі чаротам, хмызняком і дрэвамі. Тут засталіся лугі, дзе гняздуюцца шматлікія віды птушак. Дырэкцыя паўсталага ў 1993 годзе Бобранскага парку зрабіла стаўку менавіта на ахову птушак і прыгожых шырокіх лугоў. Кашэнне так званай „белі" зноў пачало прыносіць прыбытак гэтым сялянам, якія карыстаюцца аграэкалагічнымі праграмамі. Аднак карыстаюцца імі толькі тыя, якіх лугі дастатковыя сухія, каб уехаць туды трактарам. Магчыма ўдасца тут захаваць гармонію суіснавання ракі і людзей, якія жывуць на яе берагах. Ад традыцыйнага кашэння сяляне з-над бобранскіх лугоў адышлі недзе ў 70-х гадах дваццатага стагоддзя.

— Больш за восем тысяч гектараў выкошваем. Робім гэта касілкамі наколькі дазваляе прырода. Таксама не ўсе лугі належаць Бобранскаму нацыянальнаму парку. Уласнікаў участкаў матывуем дапламатамі за кашэнне іх уласнай травы. Таксама робім гэта касілкамі з рухавіком унутранага згарання або ратракам (спецыяльная машына на гусенічным ходу — рэд.), — дадаў Андрэй Грыгарук. Але якая б сучасная тэхніка ні прыходзіла на дапамогу чалавеку, ёсць месцы ў балотах, дзе завесці парадак можна толькі з дапамогай дзедаўскай касы.

Балоты з прыроднага пункту гледжання з'яўляюцца вельмі каштоўнымі тэрыторыямі. Яны затрымліваюць ваду, што асабліва важна ў сухія гады, як сёлета. Больш за тое, гэта месца пражывання ды знаходжання рэдкіх відаў раслін, птушак ды жывёл. Балоты ў Еўропе былі асушаны, засталося іх няшмат і яны патрабуюць аховы.

— З Бобрай ёсць так, што можна ў ёй закахацца, як у акцёрках — па здымках. Я шукаў дзікага месца ў Польшчы, — сказаў Тамаш Класоўскі, член навуковай рады Бобранскага нацыянальнага парку, фатограф, журналіст і вядучы тэлевізійных праграм аб прыродзе („Дзікая Польшча" і „Танцуючы з прыродай"). — Тады яшчэ тут не было нацыянальнага парку толькі на карце рыскі, значыць — балота. Калі я сюды прыехаў упершыню, я закахаўся. Так пападаеш у багну. І немагчыма з яе выйсці!

### Банджы-джампінг, сурвіваль? Над Бобрай варта шалець з касою

Бобра — адна з апошніх у Еўропе неўрэгуляваных рэк. Яна натуральная. Тут знаходзяцца вялікія тарфянікі і асаблівае багацце фаўны і флоры. У час „Бобранскіх сенакосаў" гасцей, якія з'язджалі ў Шушалева, сустракаў прыгожы водар скошанай травы.

— Уявіце сабе, што калі тут яшчэ не было парку, узнікла такая думка, каб над Бобрай паўстала прамысловая акруга. А пад Візнай хацелі пабудаваць электрастанцыю, якую апальвалі б торфам! Дзякуй Богу да гэтага не дайшло, — сказаў Тамаш Класоўскі. — Лугі вокамгненна зарастаюць маладым лесам. І гэта абазначае, што многа відаў птушак прападае. А зараз выкошваецца пры дапамозе механікі, а яна шкодная прыродзе. Усё такі добра, што адбываюцца такія мерапрыемствы. Сапраўды Шушалева прэзентуе той тып краявіду, як тады, калі яго выкарыстоўвалі сяляне.

Імпрэза „Бобранскія сенакосы" на думку Тамаша Класоўскага не прыносіць чаканага эфекту.

— Калі было б добрых сто касцоў у даліне Бобры, і кожны касіў бы па два гектары, а сяляне ўмеюць столькі скасіць, то краявід бы не мяняўся. У гэтым плане тая імпрэза падманула. Гэта мерапрыемства камерцыйнае, народнае, вясёлае. Тут каўбасу з'есца, што зараз сам зраблю, але ўручную толькі тут косяць. У час фэсту. Трэба напісаць добры праект, дастаць добрыя грошы і добра заплаціць людзям. Хаця з другога боку людзі сёння любяць шаленства — будуць выпрабоўваць сябе ў банджы-джампінгу, у сурвівалі і гэтак далей. Некаторыя напэўна ахвотна прыйшлі б пакасіць дарма. Але пакуль што ніхто не ўмее гэтага добра сарганізаваць.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**

## У нараўчанскіх пенсіянераў

23 жніўня гэтага года ў Гмінным асяродку культуры ў Нараўцы Гайнаўскага павета адбылася справаздачна-выбарная канферэнцыя нараўчанскага Раённага аддзела Польскага саюза пенсіянераў (РА ПСП). На сустрэчу прыехалі Ян Каліноўскі, старшыня Акруговага аддзела ПСП у Беластоку і Мікалай Павільч, войт Нараўчанскай гміны.

Справаздачу зачытала Ядвіга Карпюк, старшыня РА ПСП у Нараўцы. Адзначыла перш-наперш поспехі ў дзейнасці вясковай пенсіянерскай арганізацыі. Члены ПСП ахвотна ўдзельнічалі, між іншым, у таварыскіх сустрэчах і танцавальных вечарынах, ездзілі на айчынныя і замежныя краязнаўчыя экскурсіі. Яны — актыўныя ўдзельнікі мастацкіх вакальна-музычных калектываў ды конкурсаў — літаратурных, на найпрыгажэйшыя сялянскія сядзібы ў сваёй гміне, а таксама конкурсу на „Найпрыгажэйшыя гафт і карункі Гайнаўшчыны". Праўленне раённага аддзела атрымлівае дзейсную дапамогу войта (між іншым, гмінны аўтобус вазіў пенсіянераў на культурна-забаўляльныя мерапрыемствы ў той ці іншай гміннай мясцовасці), дырэктаркі гміннага асяродка культуры Галены-Марыёлі Рэент і Кааператыўнага банка ў Нараўцы. Затым адбылася дыскусія. Выснова з яе была такая — трэба павялічыць колькасць членаў (зараз гмінная арганізацыя налічвае 120 чалавек, а было больш). Калі пенсіянерам давалі г.зв. прадуктовыя пачкі, было нават 400 членаў. У мінулым годзе прывозілі і раздавалі яблыкі. Старшыня беластоцкага Акруговага аддзела ПСП высока ацаніў працу нараўчанскага праўлення ПСП. Падчас перапынку ў абрадах сабраныя агледзелі кінафільм „Нашы пенсіянеры" Юрыя Равінскага, кінарэжысёра-аматара са Старога Ляўкова.

З'езд выбраў новае праўленне Раённага аддзела ПСП у Нараўцы ў складзе Ядвіга Карпюк — старшыня, Аляксандр Зданоўскі і Галена Бандарук — намеснікі старшыні, Люцына Зданоўская — сакратар ды Павел Леўша і Анатоль Раманчук — члены. На канферэнцыю ў Беласток паедзе Ядвіга Карпюк.

## Найпрыгажэйшыя сялянскія сядзібы

2 верасня гэтага года падчас гмінных дажынак у Нараўцы Гайнаўскага павета падсумавалі, між іншым, вынікі конкурсу „Найпрыгажэйшыя сялянскія сядзібы ў Нараўчанскай гміне ў 2018 годзе".

У катэгорыі „Сядзібы" два раўнапраўныя першыя месцы занялі Данута і Кшыштоф Шумарскія ды Ірэна Тамберг з Нараўкі, тры раўнапраўныя другія месцы занялі Зіна і Яўген Рэенты са Скупава, Галена Анішчук з Семяноўкі ды Тамара і Ян Скепкі з Забрадоў. Вылучэнні ў гэтай катэгорыі атрымалі Люба Пільціцкая з Альхоўкі і Люба Леанеўская з Міклашэва.

У катэгорыі „Панадворкі" два раўнапраўныя першыя месцы занялі Ірэна Засім з Семяноўкі і Кацярына Бельская з Тарнопаля, два раўнапраўныя другія месцы занялі Вольга Верамеюк з Міхнаўкі ды Юліта і Анатоль Матысюкі з Семяноўкі.

У катэгорыі „Сядзібы агратурыстычных кватэр" першае месца заняў Андрэй Мацюка з Капітаншчыны, другое — Валянціна Германюк са Скупава і трэцяе месца — Галіна і Юзэф Вяжхоўскія з Заблотчыны. Вылучэнне ў гэтай катэгорыі атрымалі Люцына і Аляксандр Зданоўскія з Плянты.

Віншуем пераможцаў конкурсу! Усе яны атрымалі грашовыя ўзнагароды ад гмінных улад. **(яц)**

# На еўрапейскіх шляхах да сваёй спадчыны



Еўрапейскія дні спадчыны — 2018 г. у Падляшскім ваяводстве працягваюцца ад 8 да 16 верасня. ЕДС гэта дзеянні па ўсёй краіне (агульнанацыянальны каардынатар мерапрыемства — Нацыянальны інстытут спадчыны) — самае важнае свята славутасцей, арганізаванае штогод у верасні ў Еўропе і ў Польшчы. Яго мэта заключаецца ў тым, каб садзейнічаць развіццю рэгіянальнай культурнай спадчыны і нагадаць усім аб агульных каранях еўрапейскай культуры. Гэта таксама садзейнічанне міжкультурнаму дыялогу і, такім чынам, стварэнне моста, які злучыць жыхароў розных рэгіёнаў, а таксама розных пакаленняў. У Еўрапейскіх днях спадчыны ўдзельнічаюць розныя арганізацыі: установы культуры, навукі, адукацыі, грамадскія суполкі і прыватныя асобы. Яны становяцца ўсё больш і больш папулярнымі сярод жыхароў Падляшша. У 2018 годзе адзначаем сотую гадавіну незалежнасці Польшчы. Гэты вельмі важны юбілей з'яўляецца таксама тэмай 26 выдання сёлетніх ЕДС і праходзіць пад лозунгам «Незалежная для ўсіх». Гэтай тэмай Нацыянальная рада Савета па спадчыне хоча нагадаць публіцы гісторыю незалежнасці, паказаць дасягненні працяглага гістарычнага працэсу, у якім удзельнічалі многія вядомыя дзеячы і цэлы шэраг звычайных жыхароў Рэчы Паспалітай, якія ў цяжкі час не забыліся пра сваё, не шкадуючы намаганняў і ахвяр, часта з уласнага жыцця. Праз святкаванне года ЕДС арганізатары хочуць навучыць чытання ў помніках — маўклівых сведках гісторыі — гісторыі гэтых людзей і іх спадчыны, каб зразумець, колькі аб'ектаў асацыюецца са свабодай і адраджэннем.

2018 год з'яўляецца таксама Еўрапейскім годам культурнай спадчыны. Яго святкаванне з'яўляецца магчымасцю падкрэсліць важнасць еўрапейскай культуры і напамінам аб супольных каштоўнасцях.

У Польшчы ЕДС адзначаюцца з 1993 года. Накіраваны яны да шырокай аўдыторыі, заахвочваюць да вывучэння помнікаў і іншых месцаў, звязаных з традыцыямі і культурай. Арганізатары хочуць такім чынам прамаваць разнастайнасць форм рэгіянальнай культурнай спадчыны, напамінаць пра агульныя карані еўрапейскай культуры, заахвочваць да садзейнічання міжкультурнаму дыялогу. Каардынатарам ЕДС у Падляшскім ваяводстве з'яўляецца Дэпартамент культуры і нацыянальнай спадчыны Маршалкоўскай управы ПВ. Еўрапейскія дні спадчыны з'яўляюцца сумеснай ініцыятывай Рады Еўропы і Еўрапейскага Саюза.

Інаўгурацыю ЕДС 2018 года пачалі маршалак Падляшскага ваяводства і Падляшскі Музей народнай культуры 8 верасня семінарам у падбеластоцкім скансэне. Семінар **«Культурныя маршруты і іх значэнне для аховы культурнай спадчыны»**, з удзелам навукоўцаў і музейных куратараў з Польшчы і Беларусі, быў першым з больш чым дваццаці мерапрыемстваў Дзён еўрапейскай спадчыны ў гэтым годзе на Падляшшы. Культура на шляху з'яўляецца адной з лепшых ідэй для папулярызацыі гісторыі і яе слядоў. Распрацаваныя з ідэяй і ўмела прасоўваныя культурныя маршруты прыцягваюць сотні турыстаў, а аб'екты, якія іх ствараюць, становяцца вядомымі. Гэта палягае іх абарону. Семінар скончыўся дыскусіяй, падчас якой удзельнікі абдумвалі магчымасці стварэння татарскага шляху, які быў бы Еўрапейскім культурным маршрутам Рады Еўропы (Польшча, Беларусь, Украіна).

Абмеркаванне культурных маршрутаў было прэлюдыяй да сёлетніх ЕДС на Падляшшы. Афіцыйнае адкрыццё адбылося 9 верасня, падчас фестывалю «Падляшша пахуча травамі» ў Падляшскім музеі народнай культуры. Святкаванні будуць працягвацца да канца верасня. Уключаны ў свята больш за дваццаць мясцовасцей па ўсім Падляшшы.

Ініцыятыва стварэння еўрапейскіх культурных маршрутаў з'яўляецца адной з найстарэйшых праграм Рады Еўропы ў галіне культуры. У адпаведнасці з Дэкларацыяй Сант'яга-дэ-Кампастэла 1987 г. узнік першы шлях — Дарога святога Якуба. Культурныя маршруты ўяўляюць сабой сеткі супрацоўніцтва на мясцовым узроўні, якія спрыяюць каштоўнасцям Еўропы — правам чалавека, павазе да культурнай разнастайнасці, узаемаразуменню і трансгранічнаму абмену. Гэтыя каналы міжкультурнага дыялогу пагльбляюць веды аб еўрапейскай гісторыі і фармуюць агульную еўрапейскую ідэнтычнасць. Тэматыка маршрутаў мае сімвалічнае значэнне для еўрапейскай гісторыі і культуры. Яны прысвечаны розным тэматычным ніткам, сягаючым культуры мегалітычных эпох і наскальнага мастацтва да нашага часу, якія ілюструюць еўрапейскую памяць, гісторыю і спадчыну. Культурныя маршруты Рады Еўропы з'яўляюцца працэсам інтэрпрэтацыі агульных традыцый і гістарычных падзей. Мэтай праграмы з'яўляецца стварэнне апісанняў, якія злучаюць розныя краіны Еўропы дзеля спазнання нашага кантынента, а таксама развіццё ўстойлівага культурнага турызму, які прыносіў бы прыбытак мясцовым супольнасцям.

Адам Валіцкі з Інстытута Кроненберга распавёў пра карту ІКАМОС і ахоўванне культурных маршрутаў, Анджэй Стасяк з Універсітэта ў Лодзі прадставіў пешаходныя маршруты — іх вызначэнне, класіфікацыю, функцыі. Прафесар Святлана Куль-Сяльверстава з Беластоцкай палітэхнікі распавяла пра культурныя маршруты польска-беларускага памежжа як праяву мультыкультурнасці. Доктар Ірэна Матус з Універсітэта ў Беластоку, калекцыянерка абрадавых беларускіх ручнікоў паказала частку сваёй калекцыі і запрапанавала стварэнне шляху падляшскага народнага ручніка. Доктар Тацццяна Богуш з Універсітэта ў Гродне прадставіла мультыкультуралізм беларуска-польскага памежжа і сучасную дэмаграфічную сітуацыю на той тэрыторыі. Войцех Кавальчук з Падляшскага Музея народнай культуры ПВ растлумачыў шлях народных рамёстваў Падляшша. На тэму, якая асабліва цікавіла слухачоў і выступоўцаў — стварэнне татарскага культурнага міжнароднага шляху выступілі таксама д-р Артур Канапацкі і дырэктар музея ў Іўі (сталіцы беларускіх мусульман) Кацярына Маскарэвіч. Дыскусію на тэму «Культурныя маршруты і іх значэнне для захавання культурнай спадчыны» вёў доктар Павел Есса з Маршалкоўскай управы ПВ. Мерапрыемства праходзіла таксама з нагоды 10-й гадавіны ратыфікацыі Хартыі ІКАМОС у адносінах да абароны культурных маршрутаў. Развагі тычыліся абароны, забеспячэння і прасоўвання гэтых важных абласцей з асаблівым акцэнтам на іх ролі ў ахове культурнай спадчыны рэгіёнаў.

Святлана Куль-Сяльверстава, гісторык, літаратар: «Які б мы шлях не абралі, ці ў Падляшскім ваяводстве, ці на Гарадзеншчыне, абрыванне яго на мяжы — гэта штучная акцыя. Які б мы не абралі шлях, гэта ж адзін рэгіён, гэта спрадвеку адна зямля. Гэта мяжа пракладзена штучна, яна дзеліць не толькі краіны, народы, яна падзяліла па-жывому адзіную рэгіянальную культуру. Патрэбная таксама ўстойлівая ўправа турызмам, на абшарах культурна і прыродна каштоўных, падаванне ўзораў міжнароднага супрацоўніцтва ў абшары турызму і культурнай спадчыны, праектаванне, фінансаванне развою турыстычнага патэнцыялу. Тут адзначыць трэба таксама ролю супрацы навукі з практыкай у ахове абшараў каштоўных у турыстычным плане».

Анджэй Стасяк: «Турыстычныя маршруты таксама могуць быць паспяхова выкарыстаны для кіравання збалансаваным эканамічным развіццём абшару, а таксама дзеяннямі ў рамках турыстычнага маркетынгу. Дзякуючы стварэнню новых маршрутаў або пашырэнню існуючых, прымацоўваючы да іх іншыя аб'екты (мясцовасці)) можна эфектыўна пашырыць спектр турыстычнага пранікнення. Маршруты тады распаўсюджваюць турыстычныя патокі з найбольш важных, найбольш папулярных славутасцей да тых, што менш вядомыя, менш наведваныя, але таксама заслугоўваюць увагу. Многія раёны, якія заставаліся на працягу доўгага часу па-за асноўным турыстычным інтарэсам, былі прасоўваныя і такім чынам турызм стаў асноўным рухавікам іх росту. Асноўнай задачай менеджара маршруту з'яўляюцца перш за ўсё задумы, ідэі, канцэпцыі маршруту, перакананне да яго рэалізацыі прадпрымальнікаў і жыхароў (у тым лік змякчэння магчымых канфліктаў), рэалізацыя праекта — намячэнне, маркіроўка і г. д., інфармацыя і прасоўванне турызму, арганізацыя мерапрыемстваў ажыўляючых маршрут, напрыклад, пастаноўкі, прэзентацыі, культурна-масавыя, забаўляльныя мерапрыемствы, клопат пра развой і інфраструктуру турыстычнага шляху вакол маршруту (у тым ліку таксама здабыванне інвестараў), санітарыя, рамонты, рэстаўрацыя шляху і яго інфраструктуры, біспека турыстаў, ахова іх здароўя, клопат за бесперапыннае развіццё маршруту (новыя аб'екты, новыя ніткі, злучэнне з іншымі маршрутамі).

Значыць, гістарычны культурны турыстычны шлях павінен быць жывы.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**



■ Пажарны мемарыяльны комплекс у Чахах-Арлянскіх

# Па колішніх лядах

На стэндзе, што стаіць у лесе паблізу чыгуначнай станцыі Палічна, абнародавана кароткая гісторыя Бельскай пушчы. Паведамляецца там, што спрадвеку тэрыторыя гэтая была залесена. Лясы пачыналіся ад вытокаў Нурца і між рэчкай Белай з аднаго боку, а рэчкамі Лясной і Нараўкай з другога, даходзілі на поўначы да Нарвы і Нараўкі. З паўночнага ўсходу межавалі з Воўпенскай пушчай, з усходу з Белавежскай пушчай, а з паўднёвага ўсходу — з Камянецкай. У XV стагоддзі Бельскую пушчу падпарадкавана бельскаму замку. У чарговых двух стагоддзях усе лясныя абшары, акрамя каралеўскіх паляўнічых дзялянак, былі прызначаны для засялення. Працэс гэты пачаўся ў пачатку XVI стагоддзя ад закладкі прыгарадных вёсак Бельска — Ягуштова, Стрыкоў, Шасталаў, Відава, Парцава, Спічкоў. У чарговых гадах, ужо пад загадамі каралевы Боны, на Падляшшы была праведзена аграрная рэформа, названая валочнай памерай. Рэформа гэтая асноўвалася на размеркаванні грунтоў і аб'яднанні пасяленчай расцярушанасці ў новыя вёскі. Да 1570 года асадніцтва прасунулася да лініі, якую вызначалі вёскі Вітава, Істок, Карыцісکі, Ягаднікі, Старое Корніна, Махнатае, Мора, Старое Беразова, Шастакова, Асоўка, Курашава і Вежанка. Да 1611 года лінія тая перамясцілася на чарговыя кіламетры ва ўсходнім напрамку — узніклі вёскі Барок, Хітрая, Новае Беразова і Новае Корніна. Адначасна з боку Белавежскай пушчы паявіўся вяночак асочніцкіх пасяленняў, берагучых доступу да яе. Па сённяшні дзень з Бельскай пушчы астаўся паўночна-ўсходні фрагмент, названы ад гістарычнай сядзібы ляснічага ў маёнтку Ляды Лядскай пушчай...

Зыгмунт Глогер у *Старапольскай энцыклапедыі*: „Lada, nowina po wyrąbanym lesie. W Kronice Sarmacyi europejskiej Gwagnina czytamy, że na Białej Rusi „lasy i chrósty" wytrzebiają pod posiew, co się pospolicie ladą nazywa i dalej następuje opis sposobu postępowania, polegającego na wypalaniu lasu". Па гэтым трэба меркаваць, што Бельскую пушчу новыя насельнікі асвойвалі карыстаючыся агнём...

Па лясных лабірынтах дабіраюся ў Чахі-Арлянскія, як у кожную вёску, не прадчуваючы нічога благога. На заходняй акраіне вёскі ўстаноўлены стэнд Бельскага надлясніцтва з інфармацыяй, што 11 чэрвеня 2000 года ў гэтым месцы ўспыхнуў пажар, у выніку якога згарэла больш за 50 гектараў прыватнага лесу і крыху менш дзяржаўнага ды некалькі вясковых будынкаў. Больш грунтоўная інфармацыя знаходзіцца на іншым стэндзе, што ўстаноўлены пасярэдзіне вёскі побач будынка даўняй школы. Пажар узнік ад праязджаючага па недалёкай чыгунцы цягніка; паспрыяла сонечнае надвор'е. А палове адзінаццатай гадзіны дня дзяжурная на каланчы надлясніцтва, што каля Дабрывады, заўважыла агонь. У акцыю ратавання вёскі і лесу ўключылася 41 пажарная каманда з цэлага ваяводства. Полымя, падганянае буйным ветрам, рванула ў напрамку вёскі. Не хапае вады з вясковага водазабору, пажарнікі з дапамогай шасці шлангаў здабываюць яе з вадаёма Бахматы. Ваду паліваюць і з верталётаў ды самалёта. А палове адзінаццатай гадзіны вечара пажар удаецца патушыць. Змаганне са стыхіяй доўжылася дванаццаць гадзін. Апошняя пажарная машына пакінула вёску дзве гадзіны пазней...

Прысядаю да пары пажылых вяскоўцаў. Жанчына паведамляе, што сама пабегла тушыць агонь на ейным лясным участку. Загарэлася вопратка — трэба было адступіцца. Муж яе быў у той час у дубіцкай царкве, калі прыбег з іншымі вяскоўцамі, агонь ужо лютаваў. Згарэлі тры збудаванні з аднаго канца вёскі і тры з другога...

Вікіпедыя: „Чахі ўпершыню згадваюцца як частка кляшчэлеўскае воласці, перадана́й у 1586 годзе каралём Жыгімонтам Аўгустам дарагічынскаму падкамораму Станіславу Хандзынскаму. Калі ў 19 ст. назва вёскі з гістарычнай Чахі (па-польску: Czochy) была зьмененая на афіцыйную Чахі (па-польску: Czechy) дададзена таксама эпітэт Арлянскія, бо ў арлянскай воласьці існавала ўжо вёска Чахі Забалотныя (па-польску: Czechy). У міжваенны пэрыяд Чахі Арлянскія належалі да гміны Орля Бельскага павету Беластоцкага ваяводства. Паводле польскага перапісу насельніцтва 1921 г. пражывала тут 217 жыхароў (5 каталікоў і 212 праваслаўных; палякамі было запісаных 6, а беларусамі 211 жыхароў)".


■ Лавачка ў Кашалях

З часу няшчасця мінула васямнаццаць гадоў. Зараз у Чахах-Арлянскіх пражывае каля соткі чалавек. Вакол вёскі зноў вырас лес, малады. Вырас ён таксама і на аблесеных палях, хаваючы ў сабе лабірынты дарог. Па адной з іх дабіраюся ў Грабавец. Стэнд пасярэдзіне вёскі: „Wielka historia zawitała do Grabowca latem 1915 roku. W miarę zbliżania się frontu, wśród mieszkańców wioski, jak niemal wszyscy inni prawosławni zamieszkujący okoliczne tereny, wyruszyła na bieżeństwo w głąb imperium rosyjskiego. Nie wszyscy jednak uwierzyli groźbom. Ta grupa ludności uciekła do lasu i tam poczekała na rozwój wypadków. Dzięki temu wieś ocalała — ugaszono bowiem pożar, który zaprószyli wycofujący się carscy żołnierze, podkładając ogień z obu krańców wsi. Gospodarze, którzy powracali z uchodźstwa (1918-1921), nie musieli więc zaczynać od zera, głodując, żebrząc, pracując ponad siły. Ich domostw strzegli sąsiedzi. Według spisu powszechnego z 1921 r. w Grabowcu w 78 domach mieszkało 385 wyznawców prawosławia. Jedna osoba zadeklarowała narodowość polską, wszyscy pozostali — białoruską. W 1941 r., kilka dni po rozpoczęciu wojny niemiecko-radzieckiej, Grabowiec został spalony". Без пажару, усё ж такі не абышлося. Дарэчы, і суседнія Дубічы-Царкоўныя калісь называліся Жарыўцом, а гэта паказвае, што і там без вогненнай стыхіі таксама не абышлося...

У Грабаўцы маю ўвагу прыцягнула новае: расстаўленыя побач кляшчэлеўскагайнаўскай шашы сонечныя калектары. У прынцыпе яны зараз прызначаюцца для абагравання дамоў, але паколькі іх некалькі сотак і яны ўстаноўлены на асобным большым участку, асмельваюся падазраваць, што гэта ўстаноўка для шырэйшага грамадскага карыстання.

З Грабаўца падаюся ў Рудуты. „Беластоцкая газета" ад 1957 года паведамляла пра вялікі пажар у гэтай вёсцы: 1 лістапада таго ж года згарэла 10 жылых будынкаў, 17 хлявоў, 8 поўных ураджаю стадол, 3 паветкі з гаспадарчымі прыборамі і два шпіхлеры. Пажар зацерушыла тройка трохгадовых хлапцоў, якія за адной са стадол развялі агонь каб нагрэць нейкі кавалачак дроту. Са стыхіяй змагаліся пажарнікі з Тафілаўцаў, Чаромхі, Кляшчэль, Бельска, Гайнаўкі. Апошняй з'явілася каманда з найбліжэйшай Орлі на „трафейным" трактары, бо свая машына не спрацавала...

Не абмінула гэтая стыхія і недалёкіх Кашалёў. Вясковы стэнд: „XX стагоддзе прынясло Кашалям шматлікія няшчасці. У 1915 годзе, уцякаючы ад нямецкіх войскаў, жыхары падаліся ў глыб Расіі, у бежанства. Вярнуўшыся ў 1918-1921 гадах засталі поўнасцю зруйнаваную вёску. Аднаўленая з вялікімі цяжкасцямі гаспадарка пратрывала крыху больш за два дзесяцігоддзі. У 1944 годзе адступаючыя нямецкія войскі абстралялі вёску. У вёсцы пачаўся вялікі пажар, ад якога ўдалося выратаваць толькі некалькі будынкаў".

Паводле згадванага часта мною Зыгмунта Глогера, даведнік з 1675 года рэкамендаваў: „A gdy trwoga ustanie, opatrzyć kto się stawił, kto nie stawił, kto pierwej, i z którym naczyniem: za to wedle miesckich dochodów merita postanowić; kto pośledz (ostatni), tego karać; ktoby nie był, jeszcze większa kaźń. Bo choćby doma sam nie był, jako w mieście ludzie kupieccy, tedy ma doma już tak statki, jako sługę dla takiej trwogi odjeżdżać: coby w tem winien nie został. Mają też być naznaczeni, kiedy gore, którzyby złodziejstwa pilnowali: bo wtenczas kradną pospolicie złodzieje najbardziej. I tak źli ludzie najdują się, co dla kradzieży zapalają".

Антрапагенныя пажары прымяняліся не толькі для стварэння лясных лядаў, яны прымяняліся таксама для стварэння лядаў дэмаграфічных, а бываюць жа і тэхнагенныя, і прыродныя. Нашы вёскі цярпелі ад усіх, у тым ліку ўчыненых войскам з мэтай пэўнага ўздзеяння на насельніцтва — каб прымусіць нашых продкаў да бежанства. Абышліся яны, здаецца, толькі матэрыяльнымі затратамі. Былі, аднак, пажары, распаленыя войскамі з мэтай масавай панікі насельніцтва непрыяцельскага боку. Такія пажары былі ўчынены ў 1945 годзе; у лютым у час бамбардзіроўкі Дрэздэна, дзе загінула некалькі дзясяткаў тысяч чалавек і ў сакавіку ў час бамбардзіроўкі Токіо, дзе ахвяр было каля ста тысяч...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Густоўна і сціпла



Пра такі праект гаварылі многія хары, але мала каму ўдалося яго ажыццявіць. Мова пра адзенне царкоўных харыстаў. Гэта складанае пытанне. Тут не пераадзенеш вялікай групы ў каляровыя строі, пашытыя дзесьці на мінскай фабрыцы. Яны адразу будуць асацыявацца з вясёлымі песнямі і скокамі, летнімі фэстамі і забавамі. Яркасць колераў і арнаментаў можа рассейваць увагу, наклікаць не тыя думкі. А ў царкоўным хоры патрэбная якраз засяроджанасць.

Такія густоўныя і сціплыя строі прыдбалі для дзяцей і моладзі пры беластоцкай парафіі на Бацечках. Яшчэ да таго, як выспела ідэя святочнай вопраткі, для дзяўчатак пашылі хусткі з народным арнаментам. Зараз дзяўчаты і хлопцы маюць густоўныя вышыванкі. Іх апранаюць на важныя святы і ўрачыстасці. Дзіцячы хор, у якім за дваццаць харыстаў, вядзе спадарыня Анна Васькоўская. Паслухаць іх можна ў кожную нядзелю ў восем гадзін раніцы ў царкве Яна Тэолага, што па вуліцы Герберта.

З-ка

# Музычны юбілей «Жэмэрвы»

«Жэмэрва» — адзін з прыгажэйшых этна-гуртоў Падляшша, 15 верасня г.г. будзе адзначаць 15-годдзе. З гэтай нагоды яго члены запрашаюць усіх сімпатыкаў і фанатаў на канцэрт, які адбудзецца ў клуні Дарафея Фіёніка ў Студзіводах. У праграме выступяць таксама гурты з Беларусі — «Церабяначка» з вёскі Церабень Пінскага раёна і «Гаманіна» з Мінска. Прадбачана прэзентацыя новага кампакт-дыска «Год у Пінскім павеце. Абрадавыя песні гадавога цыкла з гістарычнай Піншчыны», запісаны Студыяй традыцыйнага фальклору «Жэмэрва». Пасля канцэртаў арганізатары падрыхтавалі сюрпрыз. Нельга абмінуць такой падзеі, асабліва тым, што жывуць у Бельску ці наваколлі.



**Зорка**

Фота: сайт Żemerwa

Мал. Юстыны Бакуменка



Кастусь Цыбульскі

## Адзвінела павуціна

Адзвінела павуціна
Над абрусам мурагоў...
Восень выткала хусціну
Над шаломамі стагоў.
І рукою чараўніцы
Сыпанула ў бор агню,
Дзе бярозкі-маладзіцы
Рады сонечнаму дню...
Дзе зязюлі кукавалі,
Дзе чаромхі цвет кіпеў,
Дзе асінкі уздыхалі
Пад дзявочы срэбны спеў...
Эх, часіна залатая,
Вераснёвая пара!
Смуткам сэрца мне кранае
Жураўліная зара.

## УВАГА КОНКУРС!

## № 37-18

**Гальчастыя рогі,**
**Хуткія ногі.**
**Колер поўсюці — залаты.**
**Хто я, ці ведаеш ты?**
**А....**

**(В. Жуковіч)**

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 23 верасня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 33-2018: грыбы. Узнагароду, наклейкі, выйграла Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Маляванка з гускай!

Напрыканцы лета глядзім як чарадою ляцяць у вырай буслы ў Афрыку. Штодзённа яны могуць праляцець 150 кіламетраў. Восеньскі пралёт цягнецца ад паўтара да двух месяцаў.

Буслы ляцяць двума маршрутамі: праз Гібралтар і Басфор. Яны ляцяць над Турцыяй, абмінаюць Міжземнае мора, далей уздоўж ракі Іардан, праз Сінайскі паўвостраў, над Чырвоным морам у Афрыку, у даліну Ніла.

Маладыя птушкі вернуцца да нас праз 3-4 гады, калі набяруць сілы. Частка буслоў не вяртаецца ў Еўропу з Афрыкі, яны там жывуць і гняздуюцца. Штогадова ў Беларусі гняздуецца каля 20 тысяч пар белых буслоў, а найбольш на Палессі.

Разам з пачаткам восені бачым на небе ключ адлятаючых гусей і жураўлёў. Гэтыя жывыя шнуры птахаў выклікаюць настальгію і сум па вясне. Мы глядзім заварожаныя ў неба і думаем пра свае праблемы. Менавіта такое магічна-народнае адчуванне ляжыць на душы беларуса. Невыпадкова, што ў беларускіх казках няшчасныя героі просяць дапамогі ў адлятаючых гусей. Яны просяць у птушак, каб забралі разам з сабой іх смутак і гора.

(з-ка)



## З народнага календара

Нашы продкі назіралі з’явы ў прыродзе і па іх прагназавалі будучае надвор’е.
Station Паназірайце і вы! Будзе відно, ці старыя метады падыходзяць да нашага часу. Апрача гэтага пабачыце, як прыемна назіраць і думаць пра родную прыроду!

* * *

Вераснёўскія перуны абяцаюць цёплую восень.

* * *

Жоравы ляцяць высока і часта курлыкаюць — восень будзе звонкая, прыгожая, чыстая.

(з-ка)



Першы ўрок у чацвёртым класе НШ св.св. КіМ

# Казачны свет

## Каравай

У аднаго чалавека быў сын, што на сёмым годзе жыцця яшчэ не хадзіў — такі лянотны быў.

Смех дый годзе. Але што зробіш? Бацька змайстраваў вазочак, пасадзіў у яго сына, бы мех нейкі, і пачаў вазіць па дварах жабраваць.

Вось у адной хаце гаспадар паклаў на стол каравай і кажа:

— Табе, бацька, не дазваляю браць хлеб, а ты, сынок, калі можаш, бяры. Калі ж не можаш ці не хочаш, дык заставайся галодны.

Сынок у той дзень дужа хацеў есці. Доўга ён валтузіўся ў вазочку, пакуль не выцягнуў спярша адну нагу а потым і другую.

— Ну, дзякуй Богу, ужо з вазочка вылез, — зашаптаў бацька.

— Адпачні, адпачні, сынок, інакш надарвешся яшчэ! — засмяяліся наўкол.

Глядзяць, а сынок ужо ля стала!

Ды каравай яму ў рукі не даўся. Ён раптам упаў са стала і пакаціўся, а сынок — за ім. І вось ужо яны абодва за дзвярыма!.. На двары сынок бегма бяжыць, хоча схапіць каравай. Але ўдалы каравай не даецца: так замучыў небараку, што ў таго ўся спіна мокрая. А пад канец каравай і ўвогуле знік, як вадой размыла!

Каравай прапаў, затое сынок бегаць навучыўся.

Бацька радуецца:

— Гэта хлеб тваю ляноту вылекаваў!

З таго дня сын пачаў шмат хадзіць, спрытна працаваць, і ў рэшце рэшт вырас добрым і руплівым чалавекам.

*З кнігі «Казкі вандроўніка: латышскія народныя казкі» з серыі «Казачны свет».*

*Лена Жылінская*

* * *

*Школа прачынаецца,*
*Зазвінеў званок.*
*Весела спяшаюцца*
*Дзеці на ўрок.*

# Польска-беларуская крыжаванка № 37-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 33-2018:**

Фота, скала, Ян, кош, каліна, арабіна, раса, Аня, сарабанда. Янтар, фон, карта, мара, ласка, скіба, коні, на, пашана, анод, гара.

Узнагароду, наклейкі, выйграў **Дам’ян Карнілюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!



**Шаноўныя чытачы. Прапануем Вашай увазе чарговы фрагмент новай кнігі прозы Міхася Андрасюка пад загалоўкам «Поўня». Кніга будзе выдадзена нашай рэдакцыяй да канца гэтага года.**

# ПОЎНЯ

## -3-

Мы сядзелі ў мяккіх фатэлях, у доме, што складае палову „Варот Мінска". Раніцой, дапіваючы другі кубак чорнай вадкасці, што нічым — акрамя колеру — не нагадвае пра сапраўдныя свае карані, я сказаў дзяўчыне:

— Вакзальная кава, ніякая не кава. Зварыць каву — кулінарнае мастацтва, цырыманіял. Табе цікава, як вараць сапраўдную каву? Заходзь у шэсць гадзін вечара.

Я напісаў адрас на аўтобусным квітку і паклаў на столік. Яна адпісала нямым поціскам плячэй: хочаш — чытай „зайду", хочаш — „мне не цікава", твой выбар.

Стрэлкі гадзінніка склаліся ў прамую лінію, на адзін момант выцягнуліся на зважай, аддаючы гонар несмяротнаму часу, належны яму раз у суткі. Я цалкам звычайна ўспрыняў маўчанне званка ў васямнаццаць гадзін, прадбачваўся і такі варыянт развіцця гісторыі, але ж і не аддаў сябе залішняму здзіўленню, калі а палове на сёмую вечара дамафон азваўся. Хвілінамі раней пайшоў ліўны дождж, людзі кінуліся пад шырокія крылы чыгуначнага вакзала.

„На непрамакальную скуру людзі апранаюць прамакальную вопратку і хаваюцца пад дах, каб не прамокнуць", — прагуляўшыся па мокрай вуліцы, думка вярнулася каламбурам.

Прытушанае даждом аранжава-рудое сонца асвятляла пад'езд на палову сваёй звычайнай моцы, але дастаткова, каб у цьмяным паўзмроку выявіць яе постаць.

— Праходзіла міма, пайшоў дождж, а чаму мне не схавацца ў гэтым доме? Падумала і зайшла, — цяпер жэст яе плячэй казаў іншае, прамоўленае ўголас ён працягваў нямым: хочаш, сустракай, не хочаш — не сустракай.

Далоні шмарганулі па ўскудлачаных валасах, туды і назад, туды і назад, распырскваючы ў паўзмрок кроплі дажджу і каля яе ног сяміколернай дугой разаслалася вясёлка. Я падаў далонь, яна ўзяла яе і па вясёлцы, як па мосціку, пераступіла парог.

Седзячы ў мяккім фатэлі, я слухаў голас дзяўчыны, не паганяючы яго, не накіроўваючы ў той, ці іншы бок.

Насамрэч я варыў вечаровую каву. Варыў яе ў меднай, закурадымленай доседам турцы. На пачатак злёгку разагрэў пасуду, насыпаў кавы, дадаў халоднай вады, цукру, два зярняткі анісу. І пільна сачыў, каб пад дном туркі сіні агеньчык і не пагас, і не перарос у жоўты, языкаты агонь.

Чым даўжэй турка варыць каву, тым смачней атрымаецца канчатковы вынік.

Я слухаў дзяўчыну і толькі час ад часу падкідваў сціплае слова, сухую трэсачку, каб не згас яе голас.

Праз тыдзень яна высадзіцца на вакзале, ён яе сустрэне, сядуць на таксі, а калі пераступяць парог кватэры, ён пакладзе бутэльку ў халадзільнік. Пасля трыццаці хвілін з большага астынуць першыя пацалункі, таксама ж і „марціні" прыйдзе да жаданай тэмпературы. У чашу на доўгай ножцы ён падкіне замарожаную вішню....

— Россо ці б'янка? — голас маёй генетычнай памяці, сатканы з усіх мужчынскіх галасоў, нагадаў, што ўжо самы час паставіць гэтае пытанне.



— Б'янка, канешне, — зрабіла маланкавы выбар, а я прайшоўся ў другі пакой і засунуў руку ў свой вандроўны заплечнік, задаючыся пытаннем, якая сіла, за гадзіну да ад'езду аўтобуса, накіравала мяне ў беластоцкія „далікатэсы". І што б было, калі б рука пацягнулася нязначна ўбок і замест светлае „б'янка", прыхапіла з паліцы бутэльку цёмна-бурштынавага „россо"?

Час забрыў далёка за поўнач, я толькі-толькі паспеў заплюшчыць вочы, калі грукат у дзверы парушыў начную цішыню. Так і не зразумеў — я тыя дзверы адчыніў, самі яны адчыніліся, ці проста на адзін момант сышлі ў нябыт, губляючы сваю цялесную структуру? У пад'ездзе, прытуліўшы плячо да касяка, стаяў Рафаэль Санці. Кіўнуў галавой на прывітанне і без залішніх цырымоній, як добры, стары сусед з-за сцяны, адазваўся:

— Не хвалюйся, адно слова і праз секундачку мяне няма. Не забывай, Прыгажосць, яна несмяротная і нікому не належыць. А ўсе, каго запалоніць — належаць ёй. Сцеражы сябе.

— Ага, нічога сабе палон, — я спрабаваў падстроіцца пад маланкавы тэмп пытання, але ці паспеў сказаць гэтыя словы? Ці ён пачуў іх? Не ведаю. Прайшла секунда і ў пад'ездзе нікога не было.

Другі дзень працягваў знаёміць мяне з Юліяй.

— Што табе снілася? Гэта важна, памятаць свой першы сон на новым месцы. Ён збываецца.

— Мне смутна, — паднялася з пасцелі, пацягнула за сабой паласатую накідку на ложак і жэстам, агульным для ўсіх жанчын свету, закінула яе на плечы, падышла да акна.

— Смутна, бо не памятаеш сон?

— Не, не таму. Сон якраз памятаю, — замоўкла, праз халоднае шкло глядзела на вакзал. — Вакзалы часцей злучаюць, ці разводзяць?

— Чакай, падумаю, — няпроста ўлавіць разумнае слова, калі ты ўсё яшчэ застаешся ў пасцелі, а пасцель пахне яе скурай, але Юлія не чакала адказу.

— Ты мне снішся. Ты зыходзіў, а я цябе клікала, шмат разоў крычала тваё імя. Па-руску клікала, дарэмна, — падцягнула накідку і яе доўгія ногі паказаліся ва ўсёй пышнасці. Ранішняе святло рысавала іх ідэальнай крэскай. — Ніколі мне сны не сняцца на бацькавай мове. Ні на матчынай. Мае сны рускамоўныя. Кажуць, сон — адлюстраванне душы. Як думаеш, я згубіла душу?

— З душой усё нармальна. Ты проста засынаеш у неадэкватных абдымках, — запозна прыкусіўся язык, словы пайшлі. Недзе там, у далёкай Маскве, дзе я ніколі не быў, невядомы мне чалавек мабыць пачынае прыбіраць кватэру, раз-пораз правярае гадзіннік, бачыць, як на адным месцы спыніўся час і ягонае сэрца заходзіцца ад смутку. І не прыбярэ гэты смутак ні звычайнае мыццё, ні самы круты пыласос.

Мне зрабілася няёмка.

Юлія павярнулася спінай да акна, зрабіла крок насустрач ложку, яшчэ крок і яшчэ. Пальцы адпусцілі накідку і паласаты, фігавы лісток з'ехаў з плячэй, зваліўся на падлогу, разгарнуўшы мёртвыя крылы, як птушка памерлая ў палёце.

— А ведаеш, можа і так.

Яе голас паспакайнеў. Падаўшы твару сур'ёзны выгляд, абвяла мяне ўпэўненым у сябе позіркам. — Можа і так.

„Не, я дачка Аляксандра і Аргумы", — прыглушаным рэхам адгукнуўся ўчарашні дзень.

Пра Аргуму Юлія ведала няшмат. Нарадзілася ў Мардве, жыла ў Мардве, у Мардве памерла. Было гэта ў той добры час, калі дзіцячая свядомасць не разбіраецца ў дэталёвых адрозненнях паміж жыццём і смерцю. Вярнуўся — жывы, памёр — пайшоў. Куды пайшоў? Далёка — далёка. Калі вернецца? Праз нейкі час. А „нейкі час" гэта шмат? Не, няшмат.

Дзіцячая свядомасць не звязвае часу ў паасобныя дні, а кожны чарговы крок сціўшвае голас і замазвае малюнак, і той „нейкі час" ссыхаецца, звужаецца, знікае. Быццам бы і ніхто нікуды не ад'язджаў, і ніхто аднікуль не будзе вяртацца.

— Праўда, у Мардве, каб пахаваць чалавека, трэба капаць зямлю кіркамі і дзяўбці ламамі?

— Не, адкуль ты такое ўзяў? Я не памятаю, як хавалі маму, але зямля там нармальная, як і тут. А як я тут апынулася? Аднае раніцы, гадоў праз тры пасля зыходу мамы, калі ў тэлевізары дзень пачаўся са слоў „Віскулі" „развал", „канец нашага свету", а ў водгук тэлевізару вуліца занеслася лямантам „і што цяпер будзе", бацька прысеў на кухні, хвіліну падумаў, прайшоў у пакой і пачаў складаць валізу. „Вяртаемся на радзіму. Нечага тут рабіць нам. На маю і тваю бацькаўшчыну вяртаемся", — сказаў.

— Ці можам вярнуцца туды, дзе мы ніколі не былі? — запытала Юлія на пяты дзень, за некалькі гадзін да ад'езду майго аўтобуса.

Я пачаў нешта тлумачыць пра працяг нашага жыцця ў наступных пакаленнях, пра сувязь з мінулым, пра культурны код, памяць, закадзіраваную ў генах. Калі так, калі ўсё гэта ёсць, не згубілася, тады сапраўды, можна вяртацца да месцаў, дзе мы ніколі не былі, можна вандраваць у мінулае і нават бачыць будучыню.

Юлія не слухала. Я гаварыў уголас, а яна моўчкі размаўляла са сваімі думкамі.

— Ты яшчэ вернешся?

— Так, Сонца. Ты пасляззаўтра ў Маскву?

— Так.

Свет збудаваны прасцей, чым нам здаецца. Гадзіннік выштурхоўвае нас на вуліцу, вуліца вядзе на вакзал, вакзал выпраўляе ў дарогу. З чаго пачынаецца дарога? Сёння я мог бы сказаць дзеду Ляксію, што зваротныя дарогі пачынаюцца з пацалунку.

Я вяртаўся ў Мінск, яна ехала ў Маскву. Аднойчы сказала: «Больш туды не паеду».

Ніколі не пытай каханую жанчыну, чаму яна канчаткова зачыняе дзверы ў той, ці іншы закутак сваёй мінуўшчыны. Ты ўжо намаляваў яе партрэт і носіш яго ў сваіх вачах. І нават калі хаваеш вочы ад позіркаў пастаронніх людзей, закрываеш вейкамі, засланяеш далонямі, ці чорнымі акулярамі, для яе твае вочы аголеныя і безабаронныя, як нованароджанае дзіця. Яна бачыць сябе тваімі вачыма і не скажа слова, якое магло б сапсаваць гэты дасканалы партрэт.

Ніколі не пытай каханую, чаму яна зачыняе дзверы ў той пакой, куды не хадзіла разам з табою. Хіба толькі тады, калі праўда не мае для цябе ніякага значэння.

Няўжо ў маіх думках, у след за словам „Юлія", непадуладны мне голас прашаптаў слова „каханне"? Я не стаў распытваць яе, чаму ніколі больш не сядзе на маскоўскі цягнік. Я запытаў:

— Можа з'ездзім у Віскулі? Яны, па вялікім рахунку, у дванццаці кіламетрах ад маёй маленькай Бацькаўшчыны. І дзякуючы ім перасекліся нашы сцежкі. Паглядзім міфічнае месца?

— Пакажы, дзе гэта.

Села за стол, схілілася над картай. Стоячы ў яе за спінай, я ўбачыў, як вогнішча языкамі аранжавых пламянёў лізнула паперу і, маланкава пашыраючыся, пабегла па ўсёй Беларусі.

— Ой, Сонца, усю краіну спаліш! — далоні прыхапілі жменю жывога агню, паднеслі да шчакі.

— Ну пачакай, дай паглядзець, — яе палец завінуў круг над Белавежскай пушчай і спыніўся. — І тут лес, і там лес. Усюды лес. І што нам рабіць у гэтым лесе? За мядзведзямі хадзіць? На санях катацца? Сам бачыш, снег ужо амаль сышоў, — усміхнулася. — Сядай, пашукаем месца, дзе і лес шуміць, і вада цячэ, дзе птушкі спяваюць над зялёнымі лугамі.

Паклала сваю далонь на маю і нашы пальцы роўным, сінхронным крокам, пайшлі на паўночны ўсход, праз Ваўкавыск, Дзятлава, далёка па правы бок застаўся Навагрудак, а мы ішлі далей, на Бярозаўку. На сіняй стужцы Нёмана пальцы Юліі спыніліся.

— А чаму б не тут? Добрае месца. Летам, у жніўні паедзем.

Я наблізіў твар да карты і прачытаў: Дакудава.

Міхась АНДРАСЮК

Да юбілею 60-годдзя «Белавежы» БЕЛАВЕЖА

# Вершы Жэні Мартынюк



***

Сонца
хаваецца
за радкі
верша
а я прагну
яго цёплай
пяшчоты
каб праменнямі
прагнаць
запісаную
мною
самоту
што
сталася
маім
ценем.

## Ліловая вясна

Ліловым днём
май у вокны заглядае,
заваражыўшы харaством
маладосці збанок
падстаўляе.

У ліловым сне
ляцяць пялёсткі
на грудзі,
адкажы мне мілы
чаму прывабныя вусны
так блудзяць...
блудзяць.

Ці вясна не для нас
і каму водар бэзу?
У абдымках тваіх
недаспелага
кахання абрэзак.

## Белы наліў

— пяшчота ліпеньскіх
вечароў,
гарачы подых
жніўных палёў.
Са спазнелым каханнем
ты прынёс і паклаў мне у далоні.

Прытуліцца мне б
да маладосці ўспамінаў
і сэрца наліць
яго белай асалодай.

Белы наліў
асвячаны на Спаса
як бальзам ачышчэння
грэшнай душы,
маёй і тваёй.

***

Восеньская самота
кроплямі дажджу
па акне сплывае.

Сонца
яшчэ хоча
затрымаць лета
пераглядаючыся
у вадзяным люстэрку.

Плач
адлятаючых жураўлёў
адлюстраваннем
часовага развітання
з цяплом.

У плыні жыцця
шукаю свой бераг,
мой вырай.

***

У верасы верасень
ураджайны.
Пяшчотна ласкаюць нас
ліловыя вочкі.
Восень шматколерна
размалёўвае
наш зямны свет.
Неба плача
а Найсвятая Маці
і так мае апеку над намі.

***

Маё дзяцінства
гэта ўжо мроі,
яно настальгіяй
у сэрца кладзецца.

Адплылі гады ракою вярлівай,
не раз зацвіталі сады.
Маладосць матылём праляцела,
я шчаслівай быць зноў захацела.

Сарву яблык у каханні нясмелым
каб з табою яго каштаваць.

За намі спякота,
за намі мяцель.
У душы адчуваем спакой.
Спакуслівa заклікае пасцель
ды я ўжо не тая
і ты ўжо не той.

## У зацішшы душы

У зацішшы душы
знаходжу сама сябе.
Перагортваю лісты-думкі
выцягваючы задры
што цернямі ўбіліся
ў маё тужлівае сэрца.
Раздзьмухоўваю ў ім
зацярушаны агонь
каб заіскрыцца Феніксам
ад зямных да нябесных шляхоў

Павярнуць бы мне
машыну часу
каб заваладаць
плынь жыцця...

У зацішшы душы я не актрыса
— ні ўчора,
— ні сягоння,
— ні заўтра.

***

Закрасавала восень золатам,
з залатых лістоў
залаты дыван
сцеле мне пад ногі.
Лісты шолахам гавораць.
На ростанях
жыцця дарог
я з часам у змаганні
не раз рыбай
білася аб лёд,
не раз валаклося чаканне
і горла залівала як палыном.

Каму я ў ім патрэбная?

Дарэмна сніцца мне
тваё вяртанне
пад восеньскім
лістападам залатым.

***

Васемнаццаць гадоў
раздзел майму дзяцінству
зачыняюць.

Сядлаю непакорнага каня,
нязведаная прышласць
у дарослацi мяне чакае.

Наваколле ў квецені садоў,
вясны вяртаннем
як першае каханне
раскошай душу налівае.

Птушак пераліўное шчабятанне,
нябёсы васільковым блакітам
у маладосць мяне ўзносяць.

Невыказаным шчасцем
хачу сягоння захапіцца
хай давядзе мяне да слёз,
хаця маршчыны
твар ужо запісалі,
дай Божа ў сне маім
каб зноў у васемнаццаць
павярнуцца.

# Засталіся адно ўспаміны (41)

Як я ўжо згадваў у пачатку сваіх успамінаў, кінабрыгада BR-9 у раёне дзеяння мела прызначаных для абслугі пяцьдзясят тры вёскі ў раёне Гайнаўскага і Бельскага паветаў. Мясцовасці ў сямідзесяці працэнтаў праваслаўныя. Гэта давала мне, як кіраўніку кінаперасоўкі, дасканалыя магчымасці ў падборцы рэпертуару. У шасцідзясятыя гады найбольш было савецкіх кінакарцін. А на вёсках найбольш папулярнымі лічыліся ваенныя і любоўныя фільмы. З заходніх фільмаў вялікай зацікаўленасцю карысталіся амерыканскія вестэрны, дэтэктывы, прыгодніцкія (авантурныя) кінастужкі. Найбольш даходнымі фільмамі былі „Віннету”, „Унесеныя ветрам”, „Анна Карэніна”, „Воскресение”, „Летят журавли”, „Судьба человека” ды іншыя. Да невялічкіх сёл на Бельшчыне, а такімі лічыліся Дабраміль, Пятрова-Кшываколы, Быстрае, Дыдулі, Локніца, Кназазы, Страбля заязджалі раз на два-тры месяцы. Я рад быў бы зусім іх выкрасліць з маршрута, але „шэфова”, старшая інспектар Гедрайць казала: «Не можна пакінуць. Скаргі людзі будуць пісаць. Не хачу апраўдвацца ў аддзелах асветы ці павятовых камендатурах пажарнай стражы». А скаргі такія паступалі. «Чаму памінае нас кінаперасоўка?», — пыталі скаржнікі.

У Быстрае мы заязджалі з Малочак. Вёсачка невялічкая. Даўней быў там панскі маёнтак. Кінасеансы ладзілі ў мясцовай святліцы. Гледачоў няшмат прыходзіла. Але ветліва ставіліся яны да кіношнікаў. Туды заязджалі мы час ад часу адно ў пачатках шасцідзясятых гадоў. Пасля зусім выкраслілі з маршрутных планаў. У Дыдулі, напрыклад, заязджалі адно ў летні сезон, калі жаўнеры з ОТК у Элку працавалі пры жніве ў ПГРы. Сеансы дэманстравалі ў святліцы. Для вайскоўцаў білеты браў камандзір атрада, затым уручаў кожнаму салдату паасобна. На аснове засведчаных рахункаў Ваяводскае праўленне кіно разлічвалася з вайсковай часцю. Вяскоўцы куплялі білеты кожны сабе. Памятаю, што ў мураваным будынку працавала вясковая крама. Там мы атаварваліся таннымі мяснымі тушонкамі.

У Дыдулях я сустрэў даўнейшага знаёмага з Махнатага, капрала Янку Сельвесюка. Калі я ў 1959 годзе працаваў інструктарам у Гайнаўскім аддзеле БГКТ, часта наведваў Махнатае, бо там актыўна дзейнічаў драмгурток. А на Вадохрышча, у свой дзень Ангела, 19 студзеня, прыйшлося гасцяваць у Сельвесюкоў. А было гэта так. Паехаў я ў абедні час у Махнатае, каб запрасіць калектыў з пастаноўкай на канцэрт у Кузаву. На месцы выявілася, што адной дзяўчыне, якая выступала, маці забараніла ехаць на выступ. Не памаглі мае просьбы і тлумачэнні. Маці сказала, затым дачка вымушана была слухаць... Паведаміў я сваіх членаў СВМ і казаў ім, як старшыня гуртка, ладзіць уласную вечарыну. Сам застаўся ў Махнатым з самадзейнікамі на забаве. Прыемна была святочная імпрэза. У гэты час я пазнаёміўся з Янкам. У яго была сястрыца Марыся. Прыгажуня. Актыўная ўдзельніца драмгуртка. А бацька іхні, сеніёр Аляксандр, якога аднавяскоўцы клікалі Санькам, здаецца, працаваў тады старшынёю Сельскагаспадарчага кааператыва ці Гміннай рады ў Старым Корніне. Запрасіў мяне як госця да сябе на начлег. Там пры святочным кілішку замацавалі наша знаёмства. А ў Дыдулях з капралам Янкам Сельвесюком успомнілі мінулыя будні. Пасля мае кантакты з сям'ёю Сельвесюкоў абарваліся. Застаўся адно сімпатычны ўспамін.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

## На грыбочкі...

У наваколлі Чаромхі, Дабрывады і Палічнай паявілася шмат грыбоў. Даведаўся я аб гэтым з інтэрнэту, адзінай для мяне крыніцы мясцовых навінак. Сяджу я ў чатырох сценах гайнаўскай бальніцы і спаглядаю праз акно на раскідзістыя верхавіны дрэў Белавежскай пушчы. І душа рвецца дамоў, да роднай хаткі. Магу адно паўспамінаць, як калісьці са сваім неразлучным сябрам — роварам падаваўся за грыбамі пад Дабрываду, у Ракітны, адкуль вяртаўся з поўным вядзерцам баравікоў, краснючкоў, рыжыкаў ды махавікоў (падгжыбкаў). На адвячорку распальваў я печку ў летняй кухні і да поўначы сушыў грыбы ў адмысловай сушыльцы, выкананай маім сардэчным прыяцелем з Кляшчэляў Янам Бадаўцом. Ад амаль чатырох гадоў не ведаю як выглядае кузаўскі лес. Пэўна многае перамянілася. Пазарасталі сцежкі-дарожкі, якімі я вандраваў за грыбамі. Апошнім часам я мог адно выйсці за агароджу сядзібы на палетак, дзе калісьці садзіў бульбу, сеяў лубін ды сырадэлю для ўдабрэння пясчанага поля. Зараз ралля стала неўрадлівай і зарастае самасеем-сасняком. Пад маладымі сасонкамі і бярозкамі знаходзяцца мажныя баравікі. Ад двух гадоў маю магчымасць падрыхтаваць са свайго палетка на калядy сушаныя грыбы з засмажкай з мукі. Спадзяюся, што і сёлета так будзе. Каб адно здароўе дазволіла чым хутчэй вярнуцца дамоў.

Уладзімір СІДАРУК

МІНКУЛЬТ

толькі проза

http://www.minkult.me

Магчыма, у хуткім часе на адзін літаратурны беларускі часопіс, дзе публікуецца выключна проза, стане больш. З лета на новае выданне „Мінкульт” пачалі збіраць грошы праз краўндфандынгавы сэрвіс ulej.by. Ініцыятары справы ўжо стварылі ў інтэрнэце сайт будучага часопіса, які месціцца па адрасе **http://www.minkult.me**.

Сайт часопіса, які толькі нараджаецца, выглядае даволі цікава і прывабна. Галоўная старонка пабудавана такім чынам, што выйсці на рубрыкі адразу не ўбачыш, а вось аўтары, якія плануюць надрукавацца ў часопісе, ужо пазначаны.

„Мінкульт” вырас не на пустым месцы, бо трэба было набрацца вопыту, навучыцца ствараць і ўладкоўваць пад адной вокладкай досыць розныя і спрэчныя тэксты ад аўтараў, якія часам адзін аднаго не любяць і прамаўляюць гэта альбо ўголас, альбо ўпотай, дзе-небудзь на рагу кнігарні і пункту прыёму шклатары. І ў нас гэта атрымалася: каманда „Мінкульта” прафесійна і аб'ектыўна выйшла на той узровень стварэння часопіса, калі ніводнага слова не выкінеш, не тое што аўтара”, — прадстаўляе каманда „Мінкульта” свой часопіс. Праўда, гэтае прадстаўленне знаходзіцца ў самым нізе галоўнай старонкі. Там жа можна віртуальна пазнаёміцца з сябрамі рэдакцыі.

Каб пабачыць усіх аўтараў, творы якіх павінны ўвайсці ў папяровую версію часопіса, трэба на жоўтым полі знайсці квадрацік. Калі клікнуць на яго, то з'явяцца выйсці на тры рубрыкі. Адна з іх — „Аўтары”. Усяго ж аўтараў пятнаццаць чалавек. Сярод іх такія найбольш вядомыя як Валянцін Акудовіч, Адам Глобус, Віктар Марціновіч, Уладзімір Арлоў і іншыя. Калі клікнуць мышкай на імя ці партрэт пісьменніка, то перад намі адкрыецца кароценькая, літаральна ў два радкі, інфармацыя аб ім, а таксама ўрывак з твора, які цалкам плануецца змясціць у першым папяровым „Мінкульце”.

„Гэта першы нумар, ён у цэлым класічны, і там адсутнічаюць маладыя і ўвогуле новыя імёны. Гэта канон беларускай прозы, і я хацеў пачаць з такога канону, які будзе руйнавацца, пачынаючы з другога нумару. Скажам так: не заўсёды літаратура заяўляе пра сябе на пустым месцы, бо ёсць нейкі падмурак. І мне хацелася паказаць, што наш падмурак нічым не горшы за любыя іншыя... Потым мы пачнем друкаваць маладых, цікавых і смелых. Яны, дарэчы, ужо і назбіраліся на другі нумар. Магчыма, так будзе цікавей і прыгажэй зрабіць старт нашага часопіса...”, — распавёў Радыё Свабодзе галоўны рэдактар і заснавальнік часопіса Сяргей Календа, які раней выдаваў аналагічны часопіс „Макулатура”.

„Падставай для стварэння новага часопіса стала закрыццё часопіса беларускае прозы і мастацтва «Макулатура», які патрабаваў новага. «Мінкульт» працягвае добрую традыцыю «Макулатуры» — на старонках будуць з'яўляцца толькі празаічныя тэксты беларускіх пісьменнікаў на наркамаўцы, тарашкевіцы і расейскай мове, а таксама пераклады. «Мінкульт» — гэта часопіс свабодны, непадцэнзурны, гэта сапраўднае міністэрства культуры і мінская культура ў адным фармаце”, — адзначаў Календа сваім канкурэнтам — літаратурнаму інтэрнэт-часопісу „Літраж”.

Праўда, можа так стацца, што „Мінкульта” не будзе, бо на збор грошай засталося менш за два месяцы, а пакуль удалося сабраць толькі трацiну ад патрэбнай сумы.

Аляксандр ЯКІМЮК

ДАТА З КАЛЕНДАРА

ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА



Падзеі і асобы БНР



## 125 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Ляўданскага

Беларускі навуковец, археолаг Аляксандр Ляўданскі нарадзіўся 10 верасня 1893 г. у вёсцы Юр'ева Барысаўскага павета (цяпер Смалявіцкі раён Мінскай вобласці). Скончыў у 1922 г. Смаленскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута. У 1922-1925 гг. Ляўданскі вучыўся ў Смаленскім універсітэце, з 1925 года стаў яго выкладчыкам. Паралельна быў супрацоўнікам Смаленскага музея.

З 1927 г. Аляксандр Ляўданскі працаваў у Мінску, быў сябрам гісторыка-археалагічнай камісіі Інстытута беларускай культуры. Загадваў секцыяй археалогіі Інстытута гісторыі Беларускай акадэміі навук. Аднačасна працаваў у Беларускім дзяржаўным універсітэце на пасадзе дацэнта. У 1934 г. атрымаў ступень кандыдата навук.

Аляксандр Ляўданскі — арганізатар першых навукова-археалагічных экспедыцый у БССР. Яго лічаць адным з „бацькоў беларускай археалогіі”. Разам з Аляксандрам Каваленем і Сяргеем Дубінскім ён з'яўляецца адным з аўтараў трохтомнага выдання „Прац” — навуковага зборніка Інбелкульта па археалогіі. Падрыхтаваны гэтымі навукоўцамі чацвёрты том „Прац” не пабачыў свету, ён быў знішчаны органамі НКВД яшчэ ў наборы.

Ляўданскі як навуковец-археолаг зрабіў класіфікацыю гарадзішчаў жалезнага веку, вызначыў іх культурна-археалагічную прыналежнасць і арэалы, акрэсліў асноўныя рысы матэрыяльнай культуры, гаспадаркі і патрыярхальна-родавага ладу плямён, якія жылі на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў жалезным веку. Помнікі эпохі жалеза ў Беларусі разглядаў як стадыяльнае развіццё насельніцтва, якое пакінула гарадзішчы. Першы выказаў думку, што гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі ў Цэнтральнай Беларусі належалі балцкім плямёнам. Даў першую і найбольш поўную гістарычную тапаграфію старажытнага Полацка, вывучаў яго помнікі — Полацкі Сафійскі сабор, Бельчыцкі Барыса-Глебскі манастыр (гэты помнік архітэктуры ў старажытным Полацку пацярпеў у першую сусветную вайну і канчаткова быў зруйнаваны бальшавікамі). Разам з калегам Васілём Тарасенкам даследаваў у 1928-1930 гг. Пелагееўскае гарадзішча ў Магілёве. Вывучаў таксама іншыя гарады Беларусі — Віцебск, Заслаўе, Оршу, Барысаў. Даследаваў курганы ў Мінскім, Полацкім і Аршанскім рэгіёнах.

Як і пераважная бальшыня тагачасных беларускіх навукоўцаў Аляксандр Ляўданскі трапіў пад сталінскія рэпрэсіі. Усё пачыналася з даносаў зайздроснікаў, якія выступілі супраць „балцкай тэорыі”, якую навуковец тарнаваў да штрыхаванай керамікі. Ляўданскага арыштавалі 19 траўня 1937 г., паводле пастановы НКВД ад 25 жніўня прыгаварылі да расстрэлу. 28 жніўня 1937 г. Ляўданскага расстралялі ў Мінску. Месца яго пахавання невядомае, „чырвоныя каты” доўга хавалі і месцы масавых расстрэлаў і тыя ўчасткі, дзе закопвалі ахвяр бязлітаснай і крывавай савецкай сістэмы. Забойствы энкавэдэшнікамі Ляўданскага, Кавалені, Дубінскага, зыход у нябыт іншых даследчыкаў азначалі амаль поўнае вынішчэнне беларускай археалагічнай навукі. Страты павялічыліся вайной.

Рэабілітаваны Ляўданскі быў толькі 7 траўня 1958 г. У Курапатах пад Менскам зараз стаіць вялікі дубовы крыж — знак памяці сучаснага пакалення археолагаў пра нявінна забітых калег, якія закладалі падмурак акадэмічнай археалогіі.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ




# «Аксамітны вечар» у Гайнаўцы

Запрашаем на Беларускую патанцоўку ў Гайнаўцы. Забава пройдзе 15 верасня ля чыгуначнага вакзала ў Гайнаўцы «Гайнаўка-Цэнтральная. Перасадачная Станцыя Культуры». Пачынаем пунктуальна ў 19.07. Гарантуем добрую забаву, знаныя песні і, вядома, нагоду для танцаў. Вечар цудоўнай музыкі нам забяспечаць «Давід Шымчук Бэнд» і беларускі гурт «Guda», якi, акрамя выступу, правядзе таксама майстар-класы па танцах.

Запрашаем і малых, і вялікіх, і старэйшых, і малодшых. Уваход вольны.

Арганізатарам з'яўляецца Аб'яднанне «Шчыты — Звяз у карысць адукацыі і прамоцыі беларускай культуры».

Праект рэалізуецца пры фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.

Патанцоўка — гэта суправаджальная імпрэза. Перад нашай забавай запрашаем таксама на мерапрыемствы «Выспы культуры — Культура ў дарозе», якія ладзіць Міжнародны тэатральны фестываль «Wertep». У час «Выспаў культуры» можна будзе пабачыць сямейныя спектаклі і прыняць удзел у майстар-класах па стварэнні мабільнай выставы «Гісторыі вытканыя ніцямі», пройдзе таксама адкрыццё і прэзентацыя праекта «Гайнаўка-Цэнтральная».

## Дарожныя знакі ў зарасніках

У даволі вялікім салэцтве Новае Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета, як і ў іншых салэцтвах, густая сетка дарог ва ўсе бакі. Побач маставых стаяць дарожныя знакі і ўказальнікі. Прыдарожныя равы — прынамсі ў новаляўкоўскім салэцтве — у густых зарасніках вербалозу і алешын.

Зараз маем яшчэ лета і дрэвы ды кусты не губляюць лісця. За купчастымі ліставымі і іншымі кустамі (яны так хутка растуць!) на абочынах дарог не відаць усіх дарожных знакаў. Яны схаваныя і нікому не служаць, не інфармуюць, нікога не аберагаюць. Праязджаючым іх не відаць. Таму трэба выкарчаваць зараснікі ў равах і раўчуках. Найхутчэй трэба гэта зрабіць на скрыжаваннях і паваротах асфальтавых дарог і гравіек. Тут найбольш небяспечна. Вадзіцелі аўтамабіляў не павінны ехаць наўздагад, не ведаючы каму ўступіць першынство. Варта дадаць, што з-за кустоў не відаць дарожных знакаў нават на ваяводскай шашы № 685. Гэтак ёсць перад паваротамі вышэйзгаданай дарогі і перад скрыжаваннем важнейшых дарог. **(яц)**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — прыказку.

1. праём у сцяне з шыбамі = 2 _ 1 _ 30 _ 8 _;
2. дарожка ў парку або садзе = 34 _ 33 _ 18 _ 36 _;
3. перакладзіна над акном, на якую вешаюць шторы = 25 _ 26 _ 27 _ 40 _ 41 _ 42 _;
4. усходняя страва з ягняціны з рысам = 12 _ 31 _ 14 _ 13 _ 17 _;
5. таварыш Сталіна = 21 _ 20 _ 23 _ 22 _ 35 _;
6. таварыш Леніна = 19 _ 15 _ 16 _ 3 _ 4 _ 5 _;
7. любімы спорт Лукашэнкі = 7 _ 28 _ 29 _ 6 _ 37 _;
8. бакавая частка твару = 11 _ 9 _ 10 _ 32 _ 24 _;
9. натуральны падатак ад жыхароў Сібіры і Далёкага Усходу = 39 _ 38 _ 44 _ 43 _.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | | 5 | 6 | | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| 12 | 13 | 14 | | 15 | 16 | 17 | 18 | | 19 | 20 | 21 | 22 |
| | | | | | 23 | 24 | | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| | | 30 | 31 | 32 | 33 | 34 | | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 |
| | | | | | | | | 40 | 41 | 42 | 43 | 44 |

**Адказ на адгаданку з 34 нумара**

Манета, воўк, штат, папуас, управа, кабыла, Гайнаўка.

Рашэнне: **Атаўка — сену прыбаўка**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

## 16.09 — 22.09

**(22.03. — 20.04.)** Абтрасешся з праблем і рушыш у бой. Лепшая форма. Шмат работы. 15-21.09. некаторыя Бараны з першай дэкады чакае раптоўны паварот у кар'еры. Можаш змяніць працу або адкрыць сваю фірму. 15-21.09. можа быць многа нерваў і стрэсу, не рэагуй імпульсіўна.

**(21.04. — 21.05.)** Не чакай з новымі планамі. Будзе цябе вабіць лішняя рызыка, але будзеш талкова падыходзіць да непатрэбнага замяшання. Ахвотна возьмешся за адказныя заданні. Будзеш мець справу з невядомымі табе рэчамі, райся ў дасведчаных людзей, неабавязкова больш ад цябе адукаваных. 15-21.09. не будзь лішне самаўпэўненым, магчымыя канфлікты. 20-22.09. цікавае падарожжа, новыя знаёмствы.

**(22.05. — 22.06.)** Магчымыя непаразуменні з раднёй і сябрамі. У пары забудзьце пра тое, што вас раздзяліла. Мноства спраў на працы, выберы самыя цікавыя, рэштай не пераймайся. Да 21.09. будзеш прыдзірлівы, цікаўны, можаш рассакрэціць якуюсьці тайну, афёру. Будзе ўзнагарода, можа выезд на нейкую канферэнцыю, абучэнні (20-22.09.), але будзеш (нясл ушна) пераканаy аб сваёй беспамылковасці. Не еж тлустага.

**(23.06. — 23.07.)** 15-17.09. лаві шанц, які трэба выкарыстаць. Няма падстаў для наракання. Правер свае планы і намеры. Будзеш знаёміцца з новымі людзьмі. Не бярыся за важныя рашэнні пад уплывам эмоцый. 20-22.09. шукай прапаноў абучэнняў, курсаў, службовых выездаў, карысных інвестыцый, плануй на гэты час важныя экзамены, размовы, негацыяцыі, найцяжэйшыя заданні.

**(24.07. — 23.08.)** У жыцці цікавей. З ахвотай возьмешся за тое, чаго раней баяўся. На працы карысныя змены. Будзеш мець свабоду ў рашэннях, зможаш адмовіцца ад непрыемных для цябе заданняў. Ільвы з першай дэкады могуць шмат дасягнуць, але мусяць пільнаваць сваіх інтарэсаў і глядзець на рукі іншым; могуць захварэць на дзіцячую хваробу, калі яе не пераходзілі.

**(24.08. — 23.09.)** Усё павінна табе ўдацца. Інтарэсы забяспечваюць зоркі, удалыя сустрэчы, цікавыя прафесійныя праекты, паправа ладоў у пары. Да 21.09. цяжка будзе табе ўсядзець на месцы, трымай чамаданы напагатове. Плёткі будуць няпраўдзівыя, не пераймайся. 15-17.09. удала можаш падацца на кваліфікацыйныя размовы. 21-23.09. пільнуй свой страўнік, не эксперыментуй у кулінарыі, лепш не еж па-за домам.

**(24.09. — 23.10.)** Едзеш пакуль на рэзерве. Будзь асцярожным. Можа ўскладняцца рэалізацыя планаў. Але раніцай спраўна будзеш зрывацца з ложка! 15-21.09. можа вярнуцца крызіс у пары. 20-22.09. трэба будзе адсядзець сваё ў гасцях, пасля тое, што не ўдалося, высветліш. Да 21.09. выбі з пылу свае старыя ідэі — неўзабаве іх рэалізуеш, і настрой паправі цца.

**(24.10. — 22.11.)** Вялікая энергія і фізічная сіла. 16-17.09. знойдзеш вялікую падтрымку для сваіх задум. 15-21.09. не задзірай з мацнейшымі ад цябе. Старайся не рызыкаваць у каханні. Кончацца сямейныя праблемы, не без твайго ўдзелу. На працы магчымыя ўскладненні, нервовая атмасфера можа адбіцца на табе і можаш нават паплаціцца за чужыя памылкі. Рэкламуй сябе ў інтэрнэце.

**(23.11. — 22.12.)** Фіналізуй доўгатэрміновыя праекты. Хаця да 22.09. магчымыя ўскладненні ў рэалізацыі мараў. Будуць цябе вабіць змены, але не рабі ў фірме вялікай рэвалюцыі, а свае наватарскія задумы ўводзь малымі крокамі. Калі шукаеш працу, удала можа быць 15-17.09., добра разведай пра фірму, заззяеш на кваліфікацыйнай размове.

**(23.12. — 20.01.)** Выклічаш сімпатыю. Не пераймайся так працай, усяго і так не здолееш зрабіць. Паправяцца адносіны з атачэннем. Прыкмеціш самыя ўдалыя нагоды. 15-17.09. могуць ускладняцца службовыя паездкі і замежныя кантакты. З 22.09. не дай сябе ўцягнуць у непатрэбны канфлікт.

**(21.01. — 19.02.)** Хуткасць і рэфлекс прынясуць табе ўдачы. 15-21.09. — нялёгкі час у парах; пільнуйцеся, каб сябе не раніць. На рабоце нуднавата, будзеш рабіць тое, што трэба. З 22.09. можаш здабыць пасаду, аб якой марыш. 15-21.09. будзеш надта рызыкоўны, злосны, гняўлівы; вельмі пільнуйся, каб не пакалечыцца, трапіць у аварыю — кантузія можа прытрапіцца нават ва ўласнай кухні.

**(20.02. — 21.03.)** Твае таленты і здольнасці ўразяць атачэнне. Кар'ера, вялікі свет і новыя магчымасці адкрыюцца перад табою. Мудрыя рашэнні. 15-17.09. найлепшы час для новых мерапрыемстваў, падпісванне дамоў. 20-22.09. не абміне цябе заслужаная ўзнагарода. Чакаюць цябе грошы, вяртанне даўгу, спадчына ці выйгрыш.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00} – 18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# Грушка — святое дрэва Камянецкай зямлі (3)

У час, калі сталі знішчаць Грушку, штосьці скрыганула ў небе. Дрэва енкнула, жаласна заскрыпела. Хоць на двары не было ветру, зашаляcцелі ўсе лісці. Быццам адпявалі смяротную песню. Тыя, што глядзелі на гібель святога дрэва, адчулі спалох у сэрцы. Прамовіла прадчуванне бяды...

Спадарыні Вера і Валя замоўклі на момант...

Ну, а пасля гэтыя дзеці ў Вярховічах учадзелі....

Праўда, выратавалі дзяцей, ніхто тады не памёр.

— Божая сіла падала знак, каб апамяталіся, — мяркуюць жанчыны, — каб вярнуліся да рэлігіі. Невыпадкова трагедыя разыгралася на тэрыторыі школы.

— Нас, дзяцей, бацькі не бралі з сабой пад Грушку, — успамінае Валянціна Анатольеўна, — надта баяліся дырэктара школы. Настаўнікі першыя даносілі начальству, хто святціў пасху перад Вялікаднем, хто вадзіў дзяцей у царкву — усё такое. А нам аж свярбела, каб паглядзець тую грушку. Што там такое! Старэйшыя людзі ўсё шапталі... што там нейкае святлоззяе, што чуюцца дзіўныя гукі і словы.

Памятае, як у адзін *празнік* дамовіліся жэмэрвой злётаць у святое месца. Каб ніхто не ўбачыў і не вярнуў дамоў, беглі напрасткі. Валянціна, тады падлетак, запамятала мора людзей, якія выстойвалі ля крыжоў. Перад агароджай гаспадары проста з воза прадавалі яблыкі, памідоры, агуркі. Ніхто не спадзяваўся пабачыць тут столькі дзяцей. Іх з'яўленне вельмі парадавала старых.

— Усе нас частавалі яблыкамі, — успамінае пасля гадоў спадарыня Валянціна, — угашчалі як найдаражэйшых гасцей...

Фэст у Грушцы спрыяў аб'яднанню родаў. Пасля літургіі святар служыў малебен і асвячаў прынесеную з хаты яду. Адразу пасля багаслужбы жанчыны рассцілалі на траве абрусы, дабывалі з кашоў і капанек асвечаныя стравы і гасцявалі ў сямейным кругу. У гэты дзень стрымлівалі яшчэ спасаўскі пост, дык пачастунак у многім напамінаў Куццю. У савецка-калгасным свеце, вымеценым са святочных нядзель і царкоўных фэстаў, застоллі з асвечанай поснай ядой явіліся чыстай благадаццю. Векавыя пушчанскія туземцы ўпарта трымаліся царквы і малебнаў пад сваёй Грушкай.

* * *

— А вось і нашы мэры! — прывітала гасцей спадарыня Вера.

З'явіліся ў час, калі мы абмяркоўвалі дзелавітае пытанне: хто з мясцовых мужыкоў завязе на машыне ў Грушку? У руках царкоўнай старасцііхі знаходзіліся ключы да ўсіх цэркваў і капліц на агромністай, бо ажно з 16 вёсак, Вярховіцкай парафіі.

— Паехалі разам, — першая прапанавала спадарыня Вера, — пабачыце нашу царкоўку ўсярэдзіне...

Ды што тут казаць, у гэты момант нічога іншага я не жадала і не хацела! Яшчэ раней я адчула, як у маўклівай прысутнасці бабулі Веры злягчэў дзікі боль галавы, які ўжо другі дзень каламуціў мой настрой і назіранні. Бо мая дарога ў Грушку падоўжылася ў пяць, а можа і болей разоў. Дабіралася я сюды праз Белавежу, Камянюкі, Камянец, Высокае, каб у рэшце рэшт зноў апынуцца ў Вярховічах, нейкія дзесяць кіламетраў ад нашай Чаромхі. Усё гэта заняло паўтара дня і каштавала мяне пятую частку сярэдніх беларускіх заробткаў. У мясцовым калгасе сярэдняя зарплата складае 350 доляраў — так гаварыў сакратар Вярховіцкага сельсавета, які на паношанай машыне звазіў мяне і спадарыню Веру ў Бушмічы, а дакладней ва ўрочышча Грушка.

— Усе маладыя, здольныя людзі адгэтуль з'язджаюць. Хто ў Брэст, хто ў Мінск, хто ў Польшчу. А тут няма каму працаваць, тыя што засталіся, рабіць не хочуць. Ім толькі выпіўку давай...

— Мая, мама гаворыць, — пашкадавала я ахвяр алкагольнай залежнасці, — што ўсе людзі патрэбныя! Раней у дарозе я бачыла сумныя групы мужчын, якія выстойвалі ля магазінаў, або клубаў. Напаміналі бежанцаў, выгнаных са свайго собскага свету. Побач круціліся аблезлыя дварнякі, часта з перабітай нагой.





— Бо ваша мама жыла ў часы, калі яшчэ пілі з толкам, — цягнуў спадар сакратар, — ніхто тады не бачыў такой плягі! Ну збяруцца людзі, вып'юць чарку-дзве, павяселяцца ды годзе! Кожны пайшоў у свой бок. А зараз насмерць запіваюцца. Няма меры, няма апамятання. Дай ім акіян гарэлкі, дык вып'юць і гэтага будзе мала...

— Але ж у вас такі зрух у калгасе, — здзіўлялася я, — усюды косяць, цюкуюць, барануюць. Увесь краявід нашпігаваны цюкамі з сенам. Нехта ж клапоціцца, працуе...

— Да, працуюць-працуюць! — адказаў неяк загадкава мой субяседнік.

Пасля ў сяле падказалі, што ў калгасе шмат рабочых з Украіны. Для іх трыста пяцьдзясят доляраў — добрыя грошы.

* * *

Наш шафёр застаўся ў машыне, а мы са спадарыняй Верай пайшлі пад Грушку. Праўда, з перспектывы дарогі ўсю ўвагу прыцягвае блакітная, мураваная царкоўка. Кожную суботу, у дзевяць раніцы, бацюшка служыць літургію з малебнам.

— З цэлага *міра* народ прыязджае, — кажа Вера, — з Беларусі, з Польшчы. Адзін паляк дык нават ікону падараваў... (Зноў прыгадаліся мне нашы „праваслаўныя каталікі"!)

Царкоўку збудавалі на месцы старой капліцы, якую камуністы разам з грушкай і крыжамі знішчылі ў 1960 годзе. Вера сабрала ўсе камяні ад старога падмурка, памалявала серабранкай і дагледзела, каб падмурак стаяў на адным месцы, што каплічка. Пабудова цягнулася гадамі.

— Я грошы збірала па людзях, цэлы год хадзіла, — прыгадвае старасціха. — І многа дапамог дырэктар калгаса Даўбізна. Калядаваць хадзілі. Ніна Лаўчук дала на дах. Сваімі ахвяраваннямі і коштамі збудавалі. У нас жа царква аддзеленая ад дзяржавы...

Асвячалі ў 2012 годзе, яшчэ пры бацюшку Георгію. Ён памёр раптам на 39 годзе жыцця...

Калі мы ішлі да Гршукі, здавалася, падымаемся на гару. Суровы твар спадарыні Веры памаладзеў, закругліліся маршчыны. Паўз дарогу, абсаджаную залатымі аксамліткамі, стаялі лаўкі. На іх, дзе-ндзе ляжалі спелыя яблыкі.

— І як вам наша Грушка? — спытала мая праваднiца.

— Красата!

Пытанне і адказ адносіўся да мадэрна-традыцыйнай царквы, а не да святога дрэва, тактоўна заслоненага блакітнай будоўляй...

(працяг будзе)

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**

ISSN 0546-1960